9 ліпеня 2021 | № 26 (734)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Прысуджаныя да расстрэлу**
стар. 10



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Колькі ў вас Беларусі?

Віктар МАРЦІНОВІЧ,
budzma.by

**Вы калі-небудзь задумваліся, колькі ў вас Беларусі? Ці колькі ў Беларусі — вас? Ці моцна пацерпіць Радзіма, калі вы з'едзеце? Ці выйграе, калі вы вернецеся?**

Дурную зразумела, што проста цяпер мы бачым найбуйнейшую хвалю эміграцыі з нашай зямлі ад часоў паўстанняў Касцюшкі і Каліноўскага. Адрозненне ў тым, што тады не было такой краіны — Беларусь. Людзі беглі ў Парыж ці Санцьяга-дэ-Чылі з месцаў, якія самі называлі Польшчай. Цяпер жа бягуць беларусы і з Беларусі. Беларусь зрабілася ці не самым згадваным месцам у замежных медыях на ўсёй постсавецкай прасторы.

Галоўнае ж — і гэта вяртае нас да пытання, з якога пачынаўся гэты допіс, — бягуць самыя актыўныя. Самыя абазнаныя. Самыя свядомыя.

Бог, як вядома, няроўна дзеліць. Розніца паміж чалавекам, здольным напісаць гімн, які калі-небудзь стане афіцыйным, і тым, хто такі гімн спявае, — агромністая. І колькасць паэтаў, тэатралаў, мастакоў, рэжысёраў, якія з'ехалі, мусіла б насцярожваць.

Але я сеў за гэты тэкст не для таго, каб сапсаваць вам настрой. Наадварот, мая мэта — заахвоціць.

Глядзіце, куды б у свеце вы ні прыехалі, вы заўсёды знойдзеце недзе побач ірландскі бар — і, нават не заходзячы ў яго, будзеце ведаць, што такое ірландскі бар, з дубовай стойкай, драўлянымі панэлямі, зялёнымі скуранымі фатэлямі, з Guiness у пляшках і Clannad з дынамікаў. Прычына, з якой любы гарадскі жыхар любой мясціны на свеце ведае, што такое ірландскі пастуховы пірог, палягае ў тым, што некалі з Ірландыі была такая ж хваля эміграцыі, якая ідзе цяпер з Беларусі. Там таксама людзі глынулі гора — пачытайце пра брытанскі каланіялізм і пра барацьбу ірландцаў за вызваленне.

Вынік — усе ведаюць цяпер, што такое Ірландыя.

Куды б, у які горад у свеце вы ні паехалі, вы заўсёды знойдзеце ў ім прыстойны армянскі рэстаран. Дзе будуць частаваць «Араратам», салодкім (занадта салодкім, як на мой густ!) сухім армянскім віном, гатаваць востры таматны суп, частаваць лахмаджо і хачапуры.

І гэта, зноў жа, абумоўлена тым, што некалі лютавалі асманы, была вялікая дэпартацыя і падзеі 1915–1923 гадоў, якія маюць назву «генацыд армян». Генацыд выклікаў масавую эміграцыю, а ў эміграцыі армяне засталіся армянамі і расказалі ўсяму свету пра сваю краіну, сваю музыку, сваю кухню і свой смутак па страчанай гары Арарат.

Масавая эміграцыя італьянцаў у ЗША прывяла да таго, што ўвесь свет сёння ведае, што такое піца «Маргарыта»; масавы ад'езд яўрэяў з СССР прывёў да з'яўлення Брайтан-Біч і таго, што нікому за межамі Расіі не варта тлумачыць, што такое matrioshka.

Нешта такое будзе і з цяперашняй хваляй ад'ездаў беларусаў з Беларусі.

Я не маю ніякіх ілюзіяў і ўсведамляю, што хутка гэта ўсё не нармалізуецца. То тыя, хто з'ехаў, застануцца за мяжой. Але паколькі, паўтаруся, з'ехалі самыя актыўныя, у мяне няма ніякіх сумневаў у тым, што Беларусь will go global.

Што беларускія музыкі раскажуць іншаземцам пра хараство матчыных спеваў. Што паэты зачаруюць іх мілагучнасцю нашай мовы. Што кухары змусяць увесь свет замаўляць matchanka s blincami і куляць пад яе стопку krambambulia.

То ці варта нам смуткаваць, сябры? Наша культура — культура ў шырокім разуменні гэтага слова — будзе жыць даўжэй за нас. Той след, які мы пакідаем у мове, у музыцы, у гісторыі, не знікне, пакуль не памрэ апошні суайчыннік, што мае імпэт да беларускага свету. Дык давайце ўспрымаць тое, што адбываецца, не як чорныя часы для нашай мовы, нашых песняў і нашых сімвалаў.

А як выхад нашых акцый на ІРО.

Сусветныя медыі, што перагрэлі інфармацыйны парадак дня навінамі пра тое, што тут дзеялася і яшчэ дзеецца, зрабілі фантастычную рэкламу будучым культурніцкім ініцыятывам замежжа. І калі б я быў свядомым, абазнаным у навінах і глабальных праблемах французам ці канадцам і праставаў па вуліцы, на якой ёсць рэстарацыя тыбецкай кухні і рэстарацыя беларускай кухні, цяпер я б відавочна аддаваў перавагу не тыбецкім momo, а беларускім draniki.

У часы, роўныя нашым, кожны сам робіць свой выбар. А зрабіўшы, ні ў якім разе не падвучае іншых, бо ў кожнага з нас свая біяграфія. Але тыя, што з'ехалі, таксама застануцца беларусамі. І нашыя межы, такім чынам, разнасцежваюцца на ўвесь свет. Дык ці варта смуткаваць, сябры?

Ці варта смуткаваць?

# Хто не схаваўся — будзе затрыманы

**Здаецца, такім прынцыпам кіруецца беларускі рэжым, саджаючы за краты ўсё новых ахвяраў. Але ёсць і добрая — адносна — навіна: некаторым з іх удаецца ўцячы з-пад арышту. Падрабязней пра падзеі тыдня — у нашым дайджэсце.**

Жанчыну, якая адмовілася здаваць кватэру памочніцы пракурора, асудзілі на 2 гады «хатняй хіміі». Яе прызналі вінаватай паводле 190-га артыкула Крымінальнага кодэкса («Парушэнне раўнапраўя грамадзян»). Судовыя слуханні праходзілі ў закрытым рэжыме. 33-гадовая Вольга Сінялёва, уладальніца мінскай кватэры, прапанавала вядомай удзельнам у палітычных працэсах Аліне Касьянчык з'ехаць. Тая пагадзілася і, калі знайшла новае жыллё, дамову на найманне кватэры скасавалі па згодзе бакоў. Аднак затым супраць Вольгі пачалі крымінальную справу.

Народнае антыкрызіснае ўпраўленне стварае Музей вольнай Беларусі і збірае артэфакты пратэстаў. Асновай Музея вольнай Беларусі павінны стаць артэфакты падзей 2020–2021 гадоў. Дакументы, звязаныя з выбарамі–2020, лісты і малюнкі палітвязняў, улёткі, плакаты, сцягі і іншая пратэставая атрыбутыка, кіна- і фотадакументы. Гэта і многае іншае — дакументальныя сведчанні найважнейшых гістарычных падзей.

У арыштаванай кіраўніцы «Саюза палякаў» Анжалікі Борыс пагоршыўся стан здароўя, акрамя таго, абвастрыліся ранейшыя сімптомы, звязаныя з жаночым захворваннем. Ёсць патрэба ў лячэнні зубоў, расказала дырэктарка тэлеканала «Белсат» Агнешка Рамашэўска. Паводле яе звестак, Анжаліка Борыс у выніку пагадзілася выехаць у Польшчу, але ўлады стрымліваюць гэты працэс і спрабуюць такім чынам шантажаваць яе калегу, другога лідара «Саюза палякаў», журналіста Анджэя Пачобута.

Сілавікі прыйшлі ў касметычнае прадпрыемства «Модум», затрымалі яго кіраўніцу. Вядомы беларускі вытворца касметычнай прадукцыі даўно супрацоўнічае з Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця, гэтак жа, як і анлайн-гіпермаркет 21vek.by, дзе на тыдзень раней прайшліператрусы.

У экс-следчага Юшкевіча ў СІЗА ўзялі падпіску аб неразгалошванні і прад'явілі яшчэ два абвінавачанні. Былога следчага і ініцыятара праекта «ByChange» Яўгена Юшкевіча затрымалі 19 красавіка па падазрэнні ў «акце тэрарызму» (арт. 289 КК). Дома ў яго правяліператрус, а яго самога змясцілі ў СІЗА КДБ, куды доўгі час не пускалі адваката. Цяпер Юшкевіч знаходзіцца ў СІЗА-1, тэрмін утрымання пад вартай яму працягнулі да 19 жніўня. «Вясне» стала вядома, што, акрамя арт. 289 КК, яму прад'явілі абвінавачанні па арт. 342 і 293 Крымінальнага кодэкса. У Яўгена ўзялі падпіску аб неразгалошванні матэрыялаў справы па арт. 289 КК, каб ён нават сваім сукамернікам не мог расказаць, у чым яго канкрэтна абвінавачваюць.

Кіраўнік прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Дзірк Шубель выехаў для кансультацый у Брусель. Напрыканцы чэрвеня яго выклікалі ў МЗС нашай краіны, дзе прапанавалі «давесці свайму кіраўніцтву пазіцыю беларускага боку аб непрымальнасці ціску і санкцый». Пастаянны прадстаўнік Беларусі пры Еўрасаюзе таксама адклікаецца ў Мінск для кансультацый.

Журналісту Андрэю Аляксандраву прад'явілі абвінавачанне па ч. 1 арт. 356 Крымінальнага кодэкса — «Здрада дзяржаве». Журналісту пагражае да 15 гадоў пазбаўлення волі. Раней Аляксандрава абвінавацілі па ч. 1 і 2 арт. 342 («Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх»).

Беларускія ўлады патрабуюць спыніць дзейнасць у краіне Інстытута Гётэ і Германскай службы акадэмічных абменаў. Пра гэта паведамляе МЗС Германіі.

У палітолага Валерыі Касцюговай адбыўся ператрус, саму Валерыю затрымалі, яна знаходзіцца пад вартай у СІЗА, у межах якой справы — невядома.

Затрымалі студэнтку юрфака БДУ Кацярыну Віннікаву, якая выступіла з моцнай прамовай на цырымоніі ўручэння дыпломаў. Паведамляюць, што спачатку ў студэнткі ў інтэрнаце правялі ператрус, канфіскавалі ноўтбук. Яе некалькі гадзін дапытвалі ў РУУСе, прычым адваката падчас допыту не пусцілі. Пазней дзяўчына патэлефанавала, паведаміла пра затрыманне і сказала, што чакае адваката для падпісання пратаколу. Прычынай затрымання, хутчэй за ўсё, стала прамова, з якой Кацярына Віннікава выступіла падчас цырымоніі атрымання дыпломаў. Яна са сцэны высока ацаніла і падзякавала шэрагу рэпрэсаваных выкладчыкаў, у тым ліку і палітвязню Максіму Знаку. Пазней Кацярыне Віннікавай прысудзілі 15 сутак арышту.

Палітвязень Андрэй Шарэнда пакінуў Беларусь. Андрэя абвінавацілі ў паклёпе на Лукашэнку (артыкул 367 КК). Яму пагражае да 5 гадоў пазбаўлення волі. Працэс над актывістам распачаўся ў судзе Маскоўскага раёна Брэста 28 чэрвеня. Аднак сам Андрэй на працэс не прыйшоў, нягледзячы на тое, што знаходзіўся пад хатнім арыштам. Яго абвясцілі ў вышук.

Палітзняволеная Вольга Паўлава, прысуджаная да трох гадоў «хатняй хіміі» за «грубае парушэнне грамадскага парадку», з'ехала ў Літву.

Супраць беларускай спявачкі Анжалікі Агурбаш, якая жыве ў Маскве, у Беларусі распачалі крымінальную справу па двух артыкулах: «Распальванне варожасці або розні» і «Абраза прэзідэнта». Беларусь абвясціла яе ў вышук і будзе дамагацца ў Расіі экстрадыцыі. Сама Агурбаш заклікала абмеркаваць рэферэндум па новай Канстытуцыі. Яна заявіла аб стварэнні аргкамітэту па арганізацыі ініцыятыўнай групы па правядзенні ў снежні-студзені канстытуцыйнага рэферэндуму.

У сувязі з вялікімі патокамі нелегальных мігрантаў на мяжы з Беларуссю 2 ліпеня ўрад Літвы вырашыў абвясціць рэжым экстрэмальнай сітуацыі ў краіне. Там уладкоўваюць намётавыя мястэчкі для мігрантаў, колькасць якіх сёлета ўжо ў 10 разоў перавысіла іх колькасць за ўвесь мінулы год. Літоўскі бок лічыць гэта помстай беларускіх уладаў.

Офіс Святланы Ціханоўскай атрымаў дыпламатычны статус у Літве. Гэта значыць, што беларускі народ цяпер мае афіцыйнае прадстаўніцтва ў краінах ЕС. Ужо вядзецца праца над адкрыццём прадстаўніцтваў народа Беларусі ў іншых краінах.

Ксёндз Вячаслаў Барок вымушана пакінуў Беларусь. 1 і 4 ліпеня яго зноў выклікалі ў Расонскі РАУС па новай абсурднай адміністрацыйнай справе. Міліцыянты спрабавалі незаконна правесці ў яго агляд. У снежні ксёндз адбыў 10 сутак арышту.

Журналіст і футбаліст «Крумкачоў» Аляксандр Івулін, які 3 ліпеня павінен быў выйсці на волю пасля 30-суткавага арышту, падазраецца па 342-м артыкуле КК РБ. Тэрмін утрымання Івуліна падоўжаны да 12 ліпеня.

Да чацвёртага пакета санкцый супраць рэжыму Лукашэнкі далучыліся яшчэ шэсць краін: гэта кандыдаты на ўступленне ў ЕС Паўночная Македонія, Чарнагорыя і Албанія, а таксама краіны-ўдзельніцы Еўрапейскай асацыяцыі свабоднага гандлю, якія не ўваходзяць у ЕС, — Ісландыя, Ліхтэнштэйн і Нарвегія.

Афіцыйны Мінск да мінімуму скарачае дыппрадстаўніцтва Літвы ў Беларусі. Падставай для гэтага, як паведамляе наша МЗС, з'яўляюцца «недружалюбныя захады, якія парушаюць Дамову аб добрасуседстве і супрацы».

МЗС Ізраіля асудзіла «антысеміцкія выказванні» Лукашэнкі 3 ліпеня ля Кургана Славы. Кіраўнік Беларусі заявіў, што неабходна гаварыць пра «Халакост беларускага народа» падчас Другой сусветнай. Лукашэнка сказаў: «Яўрэі ж змаглі гэта даказаць. Увесь свет сёння схіляецца перад імі, нават баяцца пальцам у іх паказаць, а мы такія талерантныя, такія добрыя, нікога не хацелі пакрыўдзіць. Даскакаліся да таго, што нас пакрыўдзілі».

# Кобрын: пакаранне «хатняй хіміяй» і зняволеннямі

Марат ГАРАВЫ

**Паўтара года «хатняй хіміі» прысудзіў 5 ліпеня суддзя Кобрынскага суда Аляксей Кміта 49-гадовай лабарантцы кобрынскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі Галіне Левек за знявагу ў сацыяльных сетках міліцыянта Юрыя Чарнышкова.**

Жанчына павінна таксама выплаціць старшаму оперупаўнаважанаму групы па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Драгічынскага РАУС Юрыю Чарнышкову 1500 рублёў у якасці кампенсацыі, аплаціць судовыя выдаткі ў памеры 87 рублёў. Апроч таго, у спадарыні Галіны канфіскаваны на карысць дзяржавы мабільны тэлефон.

Галіна Левек распавяла «Новаму Часу», што яе муж і старэйшы 28-гадовы сын працуюць кіроўцамі-дальнабойнікамі, а малодшы 24-гадовы сын з'ехаў у Польшчу, бо ў Кобрыне вельмі цяжка знайсці працу з добрым заробкам. «Вось чаму пасля прэзідэнцкіх выбараў, што суправаджаліся фальсіфікацыяй іх вынікаў, масавымі пратэстамі і гвалтам сілавікоў, 17 жніўня 2020 года напісала ў "Аднакласніках" эмацыйны каментар у адрас міліцыянта з Драгічыну», — зазначыла жанчына. Падчас адбыцця прысуду яна мяркуе працягнуць працу ў ЖКГ і займацца выхаваннем свайго ўнука Рамана, што нарадзіўся летась у сакавіку.

Кіроўцу маршруткі Анатоля Цецерука сілавікі затрымалі на кобрынскім аўтавакзале раніцай 2 ліпеня, калі мужчына збіраўся адправіцца ў чарговы рэйс. Аднак спадар Анатоль адмовіўся ехаць у мясцовы РАУС. Сваю нязгоду патлумачыў тым, што ён на працы і не можа кінуць аўто свайго працадаўцы. І толькі пасля таго, як спадара Анатоля падмяніў яго шэф, мужчына даў згоду ехаць у аддзел міліцыі.

«Намеснік начальніка аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі правапарушэнняў мясцовага РАУС, маёр міліцыі Міхаіл Вайтовіч адразу абвясціў мне затрыманне на 72 гадзіны. Нібыта ёсць падазрэнне, што менавіта я ўдзельнічаў у несанкцыянаванай акцыі з незарэгістраванай сімволікай, што зафіксавана на здымку ад 26 чэрвеня. Вайтовіч прапанаваў праехаць да мяне дадому і зрабіць агляд жытла. Паколькі не знайшлося машыны, паверыў мне на слова. Вельмі жаліўся, што ніхто не жадае служыць у міліцыі, і з дзесяці апытаных хлопцаў, дэмабілізіваных з войска, толькі адзін дае згоду падумаць наконт працы, а астатнія катэгарычна адмаўляюцца», — распавёў спадар Анатоль.

Затым яго адвялі ў ізалятар часовага ўтрымання, дзе спачатку Анатоль сядзеў адзін, а праз паўгадзіны з'явіўся мужчына, якога падазравалі ў захоўванні бел-чырвона-белага сцяга і пратэставых улётак. «Але размовы з гэтым сядзельцам засведчылі, што ён не стаіць на пазіцыях незалежнай, вольнай і дэмакратычнай Беларусі, а проста з'яўляецца аматарам чаркі і шкваркі», — адзначыў Анатоль Цецярук.

Юрыст Раман Дзмітрук пасля прэзідэнцкіх выбараў быў двойчы пакараны за сваю грамадзянскую пазіцыю — штрафам і зняволеннем на 7 сутак. А нядаўна спадар Раман зноўку быў закратаваны на 6 сутак у ізалятары часовага ўтрымання Кобрынскага РАУС.

Дзмітрука затрымалі днём 9 чэрвеня нібыта ў сувязі з крадзяжом яго нага аўто. Па прыбыцці ў мясцовы РАУС маёр міліцыі Міхаіл Вайтовіч прад'явіў юрысту іншую прэтэнзію — неаплачаны штраф. Паколькі штраф спадар Раман сплаціў, міліцыянт арыштаваў мабільны тэлефон мужчыны і затрымаў яго на 72 гадзіны з іншай падставы — у сецівe, нібыта, змешчаны здымак, на якім зафіксаваны Раман Дзмітрук з бел-чырвона-белым сцягам.

«Умовы ўтрымання ў ізалятары былі вельмі жорсткія. На допыты вадзілі ў кайданках. Матрац і бялізну на дзень забіралі і вярталі толькі на ноч — з 22.00 да 6.00. Ноччу двойчы перабівалі сон, бо будзілі ў 24.00 і ў 4.00. Трэба было падыходзіць да дзвярэй камеры, называць сябе і адказваць на пытанні наглядчыка. За найдрабнейшае парушэнне ўнутранага распарадку мяне чакаў карцар», — зазначыў спадар Раман.

За паўгадзіны да вызвалення раніцай 12 чэрвеня наглядчык прынёс мужчыну на подпіс пастанову пра паўторнае затрыманне яшчэ на 72 гадзіны. Але прычыну затрымання юрыст дазнаўся толькі праз два дні — 14 чэрвеня. За налепку з гербам «Пагоня» на ўласным аўто мужчыны, што было інкрымінавана як удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, Дзмітруку пагражала да 30 сутак арышту ці 200 базавых велічынь штрафу.

Раніцай 15 чэрвеня без аніякага абвяшчэння пра суд, у тым ліку і без адваката, над юрыстам пачаўся працэс. Спачатку яго вёў суддзя Алесь Бабаскін, а пасля абеду — Вадзім Здановіч. Ён і вынес прысуд — трое сутак адміністрацыйнага арышту. «Але я лічу гэты прысуд абсурдным, паколькі мая машына стаяла ля гандлёвага цэнтру "Палессе" на вуліцы Мікалаева, куды я прыехаў па чайнік, а не для ўдзелу ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве», — падкрэсліў юрыст.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД



КРАСНАЯ ВЕСНА

# Барацьба за ўвагу

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Безумоўна, адной з найбольш «гарачых» тэмаў тыдня стаў чарговы «замах» на дзяржаўнага прапагандыста Азаронка. Пра яго распавёў Лукашэнка, з кіпай падрабязнасцяў — ад бойкі самога Азаронка з нападнікамі, і да нейкага дрона з каністрамі выбухоўкі.**

Як звычайна, у афіцыйнай версіі поўна нестыковак. Па словах Лукашэнкі, напад адбываўся ўначы, а БТ паказала дзённыя «аператыўныя здымкі». Нейкім дзіўным чынам у парку, дзе нібыта ажыццяўляўся «замах», не было мінакоў. У машыне нападнікаў чамусьці было ўсталявана як мінімум дзве камеры, якія паказалі іх дзеянні ці не ў рэжыме рэальнага часу.

«Змовы» і «замахі» ў нас выкрываюцца з зайздроснай рэгулярнасцю. Спачатку работнік ЖКГ, юрыст і літаратуразнаўца марылі пасадзіць сыноў Лукашэнкі ў пограб у Гомельскай вобласці. Потым 150 джыпаў са зброяй загразлі ў спробе прайсці беларуска-літоўскую мяжу. Цяпер — дроны з каністрамі выбухоўкі палююць на прапагандыстаў-герояў. Пры гэтым 26 гадоў Беларусь пазіцыянавалася як выспа спакою і стабільнасці ў нашым няпростым і знерваваным свеце. Што ж здарылася?

Насамрэч, не здарылася нічога асаблівага — проста Лукашэнка занепакоіўся, што ён сканчыўся як палітык, калі пра яго перастануць гаварыць. А гэта апошнім часам і адбываецца. Ён не выклікае такой цікаўнасці ў народа, што б ні рабіў. Узяць хаця б той жа баль выпускнікоў, які таксама прайшоў на тыдні: раней усе абмяркоўвалі, хто сядзіць з ім побач, з кім ён танчыў, хто ў якім быў строі. Цяпер гэта стала нецікава ад слова «зусім».

Раней усе абмяркоўвалі, як прайшло свята 3 ліпеня, як Лукашэнка ўскладаў кветкі, як ён прымаў парад... Сёлета параду не было, але і прамова правадыра засталася па-за ўвагай. Усе толькі і паказвалі, што пустыя плошчы і месцы святкавання ў Мінску. Відавочна, што афіцыйныя мерапрыемствы, як і іх арганізатара, беларусы паставілі «ў ігнор». Затое ўсіх цікавіла, які прысуд вынесуць Віктару Бабарыку і што пасля расійска-амерыканскага саміту будзе рабіць з Сінявокай Пуцін.

Не выклікаў цікавасці нават фактычна адкрыты дэмарш Лукашэнкі ў дачыненні да Расіі — гэта калі на Форуме рэгіёнаў ён прапанаваў падрыхтаваць стратэгію інтэграцыі да 2030 года, нягледзячы на ранейшыя заявы пра практычна скончаную распрацоўку «дарожных карт» той самай інтэграцыі.

З аднаго боку, гэта тое, пра што казалі ад жніўня 2020-га, — страчаная легітымнасць, і ўсе заявы цяпер успрымаюцца не як заявы суб'екта палітыкі, а як словы аб'екта палітычнага працэсу. То-бок, сапраўдныя рашэнні па Беларусі цяпер прымаюцца без яго. З іншага — Лукашэнку вельмі крыўдна, што на яго забыліся і, па вялікім рахунку, проста не ўспрымаюць як палітыка і кіраўніка. А значыць, трэба імкнуцца прыцягнуць увагу.

Сітуацыя гэтая вельмі небяспечная — перш за ўсё, для бліжэйшага атачэння Лукашэнкі. Калі раней «замахі» і «змовы» былі, збольшага, безасабовымі, то гэтым разам з'явілася канкрэтная «ахвяра» — Азаронак. Пра гэты «замах» забудуць праз тыдзень, і зноў давядзецца прыдумваць штосьці «такое», што ўсе будуць абмяркоўваць. Прычым, прыдумваць усё больш радыкальнае.

Калі заўтра-паслязаўтра, крый Божа, выбухне аўтамабіль Качанавай ці ўпадзе «Боінг» з Шэйманам? Нехта скажа, што гэта «неверагодны сцэнар», але памятаеце забойства старшыні Дзяржкантроля па Магілёўскай вобласці Яўгена Мікалуцкага ў далёкім ужо 1997 годзе? Лукашэнка таксама заявіў, што замах планаваўся на яго, але да яго падабрацца не здолелі — і вырашылі забіць набліжанага да яго чалавека. І ў той час (як і цяпер) не важна было, што «асноўны аб'ект» замаху быў у Мінску, а ахвяра — за 200 кіламетраў.

Вам тая сітуацыя нічога не нагадвае? Асабліва ва ўмовах, калі галоўны падазраваны па справе Мікалуцкага таямнічым чынам павесіўся проста ў следчым ізалятары? Але самае цікавае: замоўнікі таго «замаху на Лукашэнку» — дагэтуль не высветленыя.

У той час, калі адзін чалавек шчыра жадае вярнуць сабе інфармацыйную прастору, гэтая прастора памкненнямі яго паплечнікаў імкліва звужаецца. На тыдні ўлады ў чарговы раз правялі бессэнсоўную акцыю такога звужэння — афіцыйна закрылі карэспандэнцкі пункт «Еўрарадыё» ў Беларусі. Пастанова Савета міністраў пра гэта зарэгістраваная 5 ліпеня на Нацыянальным прававым партале.

У «Еўрарадыё» кажуць, што закрыццё карпункта — гэта, найхутчэй, адна з частак адказу беларускіх уладаў на санкцыі з боку Еўрасаюза. «Тое, што ўрад закрывае карпункт менавіта цяпер, пасля ўвядзення "чацвёртага пакета" і сектаральных санкцый, — гэта наўрад ці супадзенне. Вядома, гэта паўплывае на нашу працу. Але не спыніць нас. З лета не працуе наш сайт, з восені нашы карэспандэнты не могуць атрымаць у МЗС акрэдытацыі. Але мы працягвалі працаваць. І закрыццё карпункта прынцыпова сітуацыю не змяняе», — адзначае калектыў радыё.

У той жа час поўху атрымалі і прапагандысты. Еўрапейскі вяшчальны саюз (EBU) вырашыў прыпыніць сяброўства «Белтэлерадыёкампаніі» ў арганізацыі. Гэта азначае не толькі тое, што БТ больш не будзе праводзіць нацыянальныя адборы і паказваць дарослае і дзіцячае «Еўрабачанне». «Белтэлерадыёкампанія» пазбавіцца права танна купляць правы на спартыўныя трансляцыі, выкарыстоўваць партнёрскія матэрыялы і матэрыялы інфармацыйных агенцтваў. То-бок, спартовую «Беларусь-5» утрымліваць абыдзецца даражэй, а пра тое, як загнівае падступны Захад, нам цяпер будуць расказваць без відэашэрагу.

Калі кіраўніцтва краіны імкнецца вярнуцца ў інфармацыйную прастору, то выбачайце: улады самі зрабілі ўсё, каб не было куды вяртацца.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Віктар Бабарыка



**Экс-кіраўніка «Белгазпрамбанка», прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта, прысудзілі да 14 гадоў пазбаўлення волі. Абвінавачанне патрабавала 15 гадоў.**

Прысуд зачытаў суддзя Вярхоўнага Суда Ігар Любавіцкі. Паколькі працэс ішоў у Вярхоўным Судзе, пакаранне не падлягае абскарджванню ў нацыянальных інстанцыях. Скарга на прысуд можа быць пададзеная толькі «ў парадку нагляду».

Астатніх фігурантаў «справы Белгазпрамбанка» асудзілі на тэрміны ад 3 да 6 гадоў.

Падтрымаць палітвязня прыйшло шмат людзей, усіх у залу не пусцілі — праз нейкі час тым, хто застаўся на вуліцы, міліцыянты загадалі разыходзіцца. Каля будынка суда былі заўважаны «бусікі» і аўтазакі.

Праваабаронцы пацвярджаюць, што Віктар Бабарыка з'яўляецца палітычным вязнем і павінен быць неадкладна вызвалены. «Следства і суд па дадзенай справе адбываліся з грубейшымі парушэннямі прынцыпаў справядлівага судовага разбіральніцтва. Гэты несправядлівы і жорсткі прысуд яшчэ больш замацаваў нашу перакананасць у выключна палітычна матываваным пераследзе Віктара Бабарыкі. Мы, як і раней, патрабуем ад уладаў Беларусі неадкладнага вызвалення Віктара Бабарыкі, чальцоў яго ініцыятыўнай групы і выбарчага штаба», — заявіў праваабаронца Валянцін Стэфановіч.

### Мікалай Дзядок



**У судзе над анархістам, грамадскім актывістам і аўтарам «Новага Часу» прызначылі комплексную псіхолага-лінгвістычную экспертызу.**

Пытанне экспертызы паўстала падчас трэцяга дня судовага працэсу. Экспертыза мусіць адказаць на пытанні: ці ёсць у паведамленнях Міколы ў Тэлеграме выказванні пабуджальнага характару, што заклікаюць да дзеянняў, і калі так, то якіх. Ці ёсць выказванні, якія негатыўна характарызуюць асоб, аб'яднаных па прыкмеце прафесійнай прыналежнасці. І ці ёсць выказванні, якія пабуджаюць да дзеянняў у дачыненні да асоб па прыкмеце прафесійнай прыналежнасці.

Дзядок выказаў супярэчанне гэтым пытанням, бо яны выходзяць за межы абвінавачання. Яго падтрымаў адвакат. Па меркаванні абароны, новыя пытанні пракурора тычацца імавернага складу па артыкуле 130 «Распальванне варожасці», абвінавачанне паводле якога ў межах гэтай справы не выстаўлялася.

Таксама абаронца пярэчыў даручэнню экспертызы Дзяржкамітэту экспертыз, бо яны раней не здолелі зрабіць высновы ў межах прад'яўленага абвінавачання, пра што ў справе Дзядка ёсць адпаведны дакумент.

Тым не менш, суд прызначыў комплексную судовую псіхолага-лінгвістычную экспертызу, якую даручыў праводзіць менавіта экспертам цэнтральнага апарата Дзяржкамітэта экспертыз РБ. Колькі часу зойме экспертыза і калі працэс працягнецца, пакуль невядома.

### Рыгор Кастусёў



**Старшыню Партыі БНФ, якога падазраюць у «замаху на Лукашэнку», перавялі са следчага ізалятара КДБ у турэмны шпіталь СІЗА МУС на вуліцы Валадарскага ў Мінску.**

Як паведаміла дачка Кастусёва, палітык у дадзены момант знаходзіцца ў медыцынскім аддзяленні СІЗА МУС. Папярэдне вядомыя прычыны — праблемы з сэрцам і ацёкі, знявolены пераведзены менавіта на лячэнне, яго справа па-ранейшаму расследуецца КДБ. Пра перавод Рыгора Кастусёва ў іншае СІЗА дачка даведалася, калі ў яе не прынялі перадачу для зняволенага ў СІЗА КДБ.

Рыгора Кастусёва затрымалі ўвечары 12 красавіка ў Шклове, пасля чаго павезлі ў Мінск. Сваякі даведаліся пра гэта пасля тэлефанавання супрацоўніка КДБ. Ён паведаміў дачцэ Кастусёва, што палітык затрыманы па крымінальнай справе. Пазней стала вядома, што гэта справа «аб змове з мэтай захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам». Разам з ім па справе праходзяць Аляксандр Фядута, Юрый Зянковіч і яшчэ некалькі чалавек.

# «Калі ідзеш супраць народа — ты ідзеш супраць сумлення»

Дзіяна СЕРАДЗЮК



Ігар Пыж'янаў з сям'ёй

**Жыхар Ліды Ігар Пыж'янаў з дзяцінства хацеў абараняць справядлівасць, таму пайшоў працаваць у міліцыю. Праз тое самае пачуццё справядлівасці сышоў, даслужыўшыся да капітана. Падчас выбараў 2020 года Ігар стаў незалежным назіральнікам і працягваў змагацца за праўду, пакуль у студзені да яго не прыйшлі з КДБ. А ў чэрвені закрытым судом яго асудзілі на 3 гады калоніі за гвалт у дачыненні да службовай асобы.**

### Няпрошаныя госці

Прыкладна а 7.20 раніцы 12 студзеня Ігар Пыж'янаў выйшаў у двор, каб адагнаць машыну, якая замінала выехаць машыне суседа. Але калі Ігар сядаў у аўто, да яго, не прадставіўшыся, увар-валіся двое. Адзін сеў на пярэдняе пасажырскае сядзенне, другі адчыніў дзверы кіроўцы, забраў ключы ад машыны і перадаў іх свайму напарніку. Потым той, што забраў ключы, сеў на задняе сядзенне і стаў трымаць Ігара Пыж'янава за рукі.

Гаварыў пераважна той, што сядзеў спераду, а незнаёмец ззаду толькі мацюкаўся і хапаў Ігара за рукі і плечы. Пярэдні сказаў, што ён з КДБ, яго прозвішча Якубчык. Ігар Пыж'янаў папрасіў паказаць пасведчанне — яму паказалі нейкую кніжачку, але разгледзець яе ён не паспеў, бо ў машыне было цёмна. Тады Ігар спытаў, ці ён затрыманы альбо арыштаваны — на абодва пытанні былі адмоўныя адказы.

Ігару Пыж'янаву дазволілі пераставіць аўтамабіль, ён сабраўся ісці дахаты, але супрацоўнік, які з ім гаварыў, запатрабаваў праехаць з імі. Ігар адмовіўся: ён мусіў адвезці ў школу сына і сказаў, што сам прыйдзе ў лідскі КДБ. Тады супрацоўнік, які сядзеў ззаду, стаў замінаць мужчыну прайсці дамоў, пачаў лаяцца і хапаць яго за рукі. У адказ Ігар зрабіў падсечку, але было коўзка, супрацоўнік упаў і пашкодзіў меніск. Пасля гэтага Ігар пайшоў дахаты — яго больш не затрымлівалі. Ён паспеў заўважыць яшчэ аднаго супрацоўніка — кіроўцу буса, на якім прыехалі няпрошаныя госці.

Адвёзшы сына ў школу, Ігар Пыж'янаў прыехаў на працу, распавёў дырэктару пра здарэнне, а пасля сам паехаў у лідскі КДБ. Адтуль ён ужо не выйшаў.

### Хацеў абараняць закон

Брат Ігара Пыж'янава Леанід, які ўжо шмат гадоў жыве ў Ізраілі, гаворыць, што затрыманне Ігара не стала для яго нечаканасцю, ён нават папярэджваў, што такое можа здарыцца. Леанід распавядае, што яго брат — аўтарытэтны і паважаны ў Лідзе чалавек. У 1994–2006 гадах Ігар працаваў у крымінальным вышуку, займаўся барацьбой з незаконным абаротам наркотыкаў, даслужыўся да капітана. Але аднойчы здарыўся канфлікт.

— Быў сход, павінны былі выбіраць старшыню гарсавета. Прыехаў губернатар вобласці і сказаў, хто павінен быць старшынёй. Усе маўчалі, а мой брат устаў і гаворыць: «Вы прыехалі ў госці — вось і гасцюйце, а хто будзе старшынёй — мы самі вырашым».

Пасля гэтага выпадку Ігара разжалавалі да старшага лейтэнанта. Але праз суд ён здолеў вярнуць сабе званне — і пасля гэтага звольніўся.

— Ён сказаў, што больш не зможа знаходзіцца ў органах унутраных спраў, — зазначае Леанід.

Брат Ігара Пыж'янава распавядае, што той заўжды хацеў абараняць закон, нават стварыў суполку ЮСМ (юны сябра міліцыі) пры мясцовым аддзеле УС. Спачатку ён вучыўся ў вышэйшай ваеннай вучэльні ў Піцеры, але калі распаўся СССР, ён мусіў вяртацца ў Беларусь і вучыцца там. А літаральна праз два тыдні пасля спынення вучобы ўвесь склад, з якім вучыўся Ігар, паехаў у Чачню.

— Міліцыя ствараецца людзьмі, як і армія, і дзедаўшчына. Я сам служыў у беларускай арміі, і я ніколі не разумеў, чаму я павінен прыніжаць іншых толькі таму, што больш адслужыў, — зазначае Леанід. — Усе людзі роўныя, незалежна ад таго, з'яўляецца чалавек прэзідэнтам, зоркай ці іншай папулярнай асобай. Мы заўжды павінны памятаць, адкуль мы прыйшлі. І павінны памятаць, што калі мы ўпадзем уніз, тыя, хто ўнізе, нам не дапамогуць. Мой брат заўсёды казаў так: быць багатым — гэта ў адным кроку ад беднасці. Ты ніколі не ведаеш, што будзе заўтра. І ён мае рацыю: сёння ты на кані, заўтра — пад канём. Мы лічым, што самае галоўнае ў жыцці — заставацца чалавекам.

### «Суд зрабілі закрытым, бо не хацелі, каб народ уздымаўся»

Пасля звальнення з органаў Ігар Пыж'янаў уладкаваўся юрыстам у адну з кампаній, акрамя таго ён завочна вучыцца на псіхолага. Па словах Леаніда, яго брат паважае закон і заўжды яго прытрымліваецца, таго ж самага ён патрабуе ад іншых.

— Яшчэ калі гэтага ўсяго не было (выбараў і пратэстаў. — НЧ), ён распавядаў, што робіцца (у Беларусі. — НЧ), як адбіраецца бізнес. Ён казаў, што народ гэтага не вытрымае, хоць беларускі народ вельмі цярплівы.

На апошніх выбарах Ігар быў незалежным назіральнікам. Як і многім, яму не дазволілі прысутнічаць на ўчастку і перашкаджалі фіксаваць выбаршчыкаў. Тым не менш, мужчына заўважыў вялікую неадпаведнасць: паводле афіцыйнага пратаколу, на яго ўчастку перамог Лукашэнка, у той час як большасць выбаршчыкаў пазначылі сябе белымі бранзалетамі, а бюлетэні яны складвалі гармонікам, як заклікалі альтэрнатыўныя кандыдаты. Тады Ігар з паплечнікамі стварыў тэлефон даверу, па якім прасіў людзей паведамляць, за каго яны галасавалі, каб адна-віць справядлівасць.

— Мой брат — вельмі паважаны чалавек у Лідзе. Калі я да яго прыязджаў, з ім праз аднаго людзі віталіся. Ён вельмі добры, усім дапамагаў. Вельмі шмат людзей прыйшло на суд — іх не пусцілі (пасяджэнне па справе Ігара ў Лідзе зрабілі закрытым. — НЧ). Ён сам хадзіў на суды па палітычных справах, выступаў сведкам, пісаў лісты. Ніколі не хаваўся, таму было зразумела, што яго возьмуць пад каўпак, — гаворыць Леанід. — У Беларусі няма «палітычных» артыкулаў, таму шукаюць, як прычапіцца да людзей, абвінавачваюць іх у парушэнні правапарадку, напрыклад. Гэта робіцца для таго, каб запалохаць і не даць ім агалосіць інфармацыю, ізаляваць ад журналістаў.

Ён мяркуе, што загад аб арышце яго брата паступіў з Мінска, але супрацоўнікі КДБ доўга не маглі знайсці зачэпку, таму зладзілі правакацыю.

— Ён чалавек юрыдычна пісьменны, і калі б яго забралі адразу — за што? З ім бы такое не «пракаціла». Яго шмат дзе ведаюць, таму і суд у Лідзе зрабілі закрытым — бо не хацелі, каб народ уздымаўся.

### Галадаў, зведаў катаванні, віны не прызнаў

Леанід гаворыць, што Ігар сам паехаў у КДБ, бо хацеў даведацца, з чым звязаная цікаўнасць да яго асобы. Па словах суразмоўцы, нават у камітэце брата арыштавалі не адразу: ён чакаў 6 гадзін, пакуль на яго завядуць справу.

У выніку справу завялі па ч. 1 арт. 366 КК РБ (гвалт супраць службовай асобы). Людзей, якія гэта рабілі, не збянтэжыла тое, што ў Ігара трое маленькіх дзяцей, прычым у адной дачкі ДЦП. Дзяўчынка не ходзіць, мае патрэбу ў адмысловых працэдурах і абследаваннях, на якія яе возяць у Гродна і Мінск. Калі дома ў Ігара Пыж'янава адбыўся ператрус, забралі ўсё золата, тэлефоны, нават машыну, і дзіця не было на чым вазіць на лячэнне. Пасля, праўда, аўтамабіль вярнулі, але яго давялося аддаваць у рамонт

Ігар лічыць незаконным сваё затрыманне і крымінальную справу супраць яго, ён змог перадаць блізкім, што расследаванне праводзілася з грубымі парушэннямі нормаў крымінальна-працэсуальнага права. Пакуль ішло следства, Ігар Пыж'янаў пісаў процьму скаргаў, заяўляў мноства хадайніцтваў, але ўсе яны былі адхіленыя, а скаргі, вядома, засталіся незадаволенымі. На знак пратэсту супраць беззаконня Ігар абвясціў галадоўку, якую трымаў 32 дні. Але ў выніку страцыю прытомнасць, яму выклікалі доктара, і ён вымушаны быў перастаць галадаць.

Хоць на суд пацярпелы супрацоўнік КДБ Ліхарадаў прыйшоў на дзвюх сваіх нагах, 17 чэрвеня суддзя Аляксандр Гаўрылаў прызначыў Ігару Пыж'янаву пакаранне ў выглядзе 3 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму і пастанавіў выплаціць 10 000 рублёў кампенсацыі маральнай шкоды. Ігар віну не прызнаў і сказаў толькі, што просіць прабачэння, калі Ліхарадаў пацярпеў ад яго дзеянняў.

— Мне цікава: калі чалавек, які ўяўляе сабой уладу, ахоўвае спакой грамадзян, ён на баку закона. Чаму тады на суд прыехала столькі амапаўцаў, чаму заходзілі праз чорны ўваход і былі ў масках? Чаго яны баяцца? Калі яны лічаць, што загад быў слушны, — чаму яны хаваюць свае аблічча? Значыць, яны адчуваюць сваю віну. І адмазка, якая гучала падчас Нюрнберга — «я звычайны салдат, які выконваў загад» — не пройдзе. Калі ты ідзеш супраць свайго народа — ты ідзеш супраць свайго сумлення, — перакананы Леанід.

Нядаўна ён даведаўся пра новыя падрабязнасці ў справе брата. Калі яго привезлі на суд, уначы не давалі спаць: будзілі, запытваліся нумар артыкула, па якім яго абвінавачваюць, уключалі гучна музыку, не давалі паперу, каб ён не мог напісаць скаргу.

### «Чым больш будзе людзей, як мой брат, тым хутчэй Беларусь пераможа»

Цяпер Ігар Пыж'янаў знаходзіцца ў гродзенскай турме. У лістах родным ён піша, што «будзем жывыя, не памром». Вельмі сумуе па сям'і, пасля суда яму дазволілі толькі на 5 хвілін убачыцца з дзецьмі.

У свой час Леанід прапаноўваў Ігару з'ехаць з ім у Ізраіль, але брат адмовіўся: ён сказаў, што яго радзіма — Беларусь.

— Ён заўжды быў патрыётам. Чым больш будзе такіх людзей, як мой брат, тым хутчэй Беларусь пераможа. Трэба верыць у сябе, у людзей, у дабро і справядлівасць, — падсумоўвае Леанід.

Сам ён, хоць і жыве за мяжой, востра адрэагаваў на падзеі ў Беларусі. У Леаніда свой музычны гурт «Без границ», і адну з песень ён прысвяціў беларускім падзеям жніўня 2020 года.

Леанід перадае, што брат вельмі дзякуе валанцёрам і людзям, якія пішуць лісты — для Ігара гэта вялікая падтрымка.

Вы таксама можаце даслаць яму ліст: г. Гродна, турма №1, вул. Кірава, 1, 230023. Пыж'янаву Ігару Юр'евічу.

Апроч таго вы можаце падтрымаць жонку і траіх дзяцей вязня, пералічыўшы ахвяраванне на рахунак:

BY80 AKBB 3014 0000 2637 6421 0000.

**Фота з сямейнага архіва Ігара Пыж'янава**

# «Калі б не жнівень, мы б ніколі не пасябравалі»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Да жніўня 2020 года Ляхавічы жылі звычайным жыццём невялікага раённага цэнтра. Пасля выбараў сітуацыя змянілася. Акрамя мірных акцый пратэсту гэты горад набыў, бадай, самае галоўнае — салідарнасць і сяброўства паміж людзьмі, якім не ўсё адно.**

### «Ляхавічы не выходзілі ні ў 1996 годзе, ні ў 2010-м»

Да жніўня людзі ведалі адзін аднаго толькі ў твар. Бліжэй пазнаёміліся тады, калі стаялі разам у ланцугах салідарнасці і на мірных акцыях пратэсту.

Сяргей да 9 жніўня працаваў гукарэжысёрам у мясцовым доме культуры, аднак звольніўся на наступны дзень пасля выбараў. Анатоль больш за дзесяць гадоў не працаваў на дзяржаўнай працы і прынцыпова не плаціў падаткі. Да Люсі пасля першай акцыі пратэсту прыйшоў сын і сказаў, што там б'юць людзей, таму ўсе мусяць быць у цэнтры горада...

Жыхароў горада затрымлівалі ў кавярні, калі яны заходзілі туды па каву. Іх забіралі ў ІЧУ на беразе рэчкі пасля купання. На Дзень Волі іх затрымлівалі на падыходах да цэнтру і на лавах за чытаннем газет... Прытым, затрымлівалі і адпраўлялі на суткі тыя, каго добра ведаюць усе гараджане.

— Мы не ведалі адно аднаго да жніўня, — узгадвае Таццяна. — Але ж наколькі ўсе аказаліся таленавітымі людзьмі! Кожны чалавек сам па сабе аказаўся такім цікавым! Я ў тэме беларускасці — з 90-х гадоў. Таму дакладна магу сказаць: раней такога не было. Ляхавічы не выходзілі ні ў 1996, ні ў 2010 годзе.

Ляхавічы былі тым горадам, у якім у жніўні кіраўнік адміністрацыі выйшаў да пратэстоўцаў на дыялог. Праўда, хутка ў горада з'явіўся новы кіраўнік, дзеянні якога, як кажуць самі актывісты, з'ядналі нават тых, хто быў абыякавы да сітуацыі ў краіне агулам.

### Забіралі на суткі наўпрост з працы

Андрэй працуе на мясцовым заводзе. Калі міліцыя хацела даць яму адміністрацыйны арышт, то за хлопцам прыязджалі ў пятніцу проста на працу. Забіралі — і трымалі ў ІЧУ да панядзелка. Так было некалькі разоў на працягу года.

— Я, як і большасць, быў супраць дзейснай улады і раней, — кажа Андрэй. — Але эпідэмія каронавіруса, калі ўлады нас кінулі, стала апошняй кропляй. На заводзе нас было двое неабыякавых. Магчыма, таму я думаў, што ў Ляхавічах нас мала.

Аказалася нашмат больш, чым можна было б сабе ўявіць. Толькі ў ланцугах салідарнасці стаяла тысяча чалавек. Гэта 10% ад усяго насельніцтва горада!

— Я шмат працую, дадому прыязджаў толькі начаваць, — распавядае Андрэй. — Але пасля выбараў наша жыццё змянілася поўнасцю. Мы жылі ад паведамлення да паведамлення ў агульным чаце. Мы спаць не маглі, працаваць не маглі — ішлі як пад прымусам на працу...

Кіраўніцтва заводу намагалася размаўляць з Андрэем.

— Мне казалі, што трэба быць больш лаяльным да ўладаў. Ну, я адказваў: «Калі вам трэба, то будзьце больш лаяльнымі».

Размовы хутка скончыліся. А пазіцыя Андрэя не змянілася.

### З'ехаў праз Мексіку ў ЗША

Сяргей Вечар разам з дзецьмі і жонкай ужо тры месяцы жыве ў ЗША. У Злучаныя Штаты сям'я вырашыла ехаць літаральна за пару дзён. Спачатку паляцелі ў Мексіку, а пасля — у ЗША.

**«Напэўна, у жыцці цэніцца толькі тое, што здабываецца цяжкасцямі. У 1990-я ў нас была і «Пагоня», і бел-чырвона-белы сцяг, але мала хто гэта цаніў. А цяпер наш сцяг — каштоўнасць. Яго ўжо ні на які не памяняюць»**



Сяргей каля дзесяці гадоў адпрацаваў у мясцовым доме культуры гукарэжысёрам, але звольніўся на наступны дзень пасля выбараў. Пасля звальнення ён намагаўся ўладкавацца ў БарГУ — была вакансія, тым больш раней мужчына там працаваў. Яго кандыдатуру ўзгаднялі месяц, але ўзгадніць так і не атрымалася.

— Мяне судзілі тры разы. Але я ўсё адно працягваў адміністраваць чат, паўсюль падпісваўся сваім імем.

Актывістаў у Ляхавічах звычайна садзілі на 72 гадзіны, пасля, асудзіўшы, давалі штраф.

Жонку Сяргея, Вольгу, затрымалі на акцыі, прысвечанай памяці Рамана Бандарэнкі. Тады некаторых людзей хапалі наўпрост з жалобнымі вянкамі і кветкамі, а пасля везлі ў РАУС.

— Вянкі і знічкі на сталах у міліцыі выглядалі досыць сімвалічна, — узгадвае Вольга. — Мы разумелі, што кожны наш выхад — небяспечны. Але гэтае затрыманне было нечаканым.

Сяргей распавядае, што ў ЗША ён з сям'ёй цяпер прысутнічае на кожнай акцыі салідарнасці з беларусамі.

### «Мы павінны заплаціць гэты кошт»

Наогул, на працягу года з Ляхавічаў ад пераследу за мяжу з'ехалі некалькі сем'яў. Але некаторыя ўсё адно працягваюць жыць тут.

— З'ехаць не так проста, як падаецца, — распавядае Таццяна. — Тым больш, немаладым людзям. Немагчыма проста ўзяць — і кінуць тут усё.

Таццяна працуе ў Ляхавічах настаўніцай.

— Пасля заканчэння ўніверсітэта я жыву тут. Яшчэ ў 1989 годзе я ўступіла ў партыю БНФ, таму тэма беларускасці для мяне не новая.

Таццяна памятае той дзень, калі ва ўсім горадзе было чуваць, што адбываецца ў цэнтры.

— Столькі людзей ніколі не было на плошчы. Плошча гула. Ты ідзеш і баішся, бо не ведаеш, што будзе далей... Уявіце, я злавіла сябе на думцы, што ў сваіх Ляхавічах я баюся... Але калі ты пачынаеш хадзіць кожны дзень, гэты страх паступова праходзіць. Напэўна, у жыцці цэніцца толькі тое, што здабываецца цяжкасцямі. У 1990-я ў нас была і «Пагоня», і бел-чырвона-белы сцяг, але мала хто гэта цаніў. А цяпер наш сцяг — каштоўнасць. Яго ўжо ні на які не памяняюць. Мы, як нацыя, павінны заплаціць гэты кошт.

### «Нешта павінна змяніцца»

Анатоль Кулік з Ляхавічаў, але доўгі час жыў у Глыбокім. Праўда, з жонкай разышліся, таму вярнуўся на радзіму.

— На пачатку 2000-х гадоў, калі я займаўся апазіцыйнай дзейнасцю, мяне напалохалі: сказалі, што дачка зможа не паступіць ва ўніверсітэт. Я тады сцяг у кішэню і схаваў... Але цяпер іншы час. Калі я толькі пабачыў чэргі па зборы подпісаў, дык вера з'явілася, што нешта павінна змяніцца.

Анатоль кажа, што з 2010 года нідзе афіцыйна не працаваў. Апошнім часам прадстаўнікі ўлады актыўна цікавіліся ў мужчыны, на якія грошы ён жыве, на што ён адказваў, што яму дапамагаюць неабыякавыя да яго людзі.

Акрамя штрафаў, якія Анатоль атрымліваў за ўдзел у несанкцыянаваных мерапрыемствах, ён адсядзеў яшчэ і 8 сутак у ІЧУ.

— Калі пачалася зіма, навалілася нейкая дэпрэсія, бо людзей стала выходзіць менш і менш, — узгадвае Анатоль. — Ніякай падпіткі не было. Цэлы месяц я дэпрэсаваў, а ў студзені — адвезлі ў рэанімацыю. Інсульт.

Пасля лячэння, каб хутчэй рэабілітавацца, урач параіў Анатолю больш шпацыраваць. Праз тыдзень, 25 сакавіка, выконваючы параду лекара, Анатоль шпацыраваў па горадзе.

— Дашкандыбаў я да цэнтра, як падыходзіць міліцыянер і кажа, каб я праехаў з ім, — кажа Анатоль. — Я выпрасіў слова афіцэра, што на суткі ён мяне не пасадзіць. Мяне пасадзілі ў «газель», спыталі, хто сцягі на дрэвы павесіў. Я яму нагадаў, што я вось тыдзень толькі як з бальніцы вярнуўся пасля інсульту. Але нават калі б ведаў, хто — пад пісталетам не сказаў бы.

Цяпер у Анатоля яшчэ не вельмі добра працуе рука.

— Але адно — паміраць не страшна. Самае страшнае не тое, калі забіваюць чалавека. Страшна, калі веру забіваюць.

### Ратуе, што ўсе разам

На самай справе, многія рэчы, звязаныя з пераследам, актывісты ўзгадваюць з гумарам. Напрыклад, сябры ўспамінаюць адзін з "хапуноў", калі яны проста сустракаліся каля рэчкі папіць гарбаты. Тады адзін з сяброў — Віталь — схадзіў у краму і набыў там замарожаныя курыныя грудкі. Ён хацеў далучыцца да сяброў, але не паспеў: яго затрымалі на падыходах і пасадзілі на 72 гадзіны. Калі Віталь выходзіў, яму аддалі тую курыцу, што, праўда, ужо паспела за гэты час і размарозіцца. З гэтай курыцай, з якой цякла вада, яму давялося прайсці па калідорах да выхаду.

Таццяна кажа, што адной было б вельмі складана. А калі ў малым горадзе ёсць з кім падзяліцца думкамі — ты ўжо не адзін. Штрафы, якія прысуджаюць актывістам, аплачваюць усе. Бывае, скідваюцца нават на новы тэлефон, калі яго не аддаюць пасля вобшуку. Дапамагаюць адно аднаму з заменай сантэхнікі або з рамонтам.

Адно шкада — цяпер яны не могуць нават разам выйсці ў горад, каб папіць кавы: мясцовая міліцыя адразу расцэньвае гэта як масавае мерапрыемства.

— Не шкадуеце, што было гэта ўсё? — пытаю ў грамады.

— Шкада толькі, што столькі людзей у турмах сядзяць... А калі б не жнівень, то мы б не пазнаёміліся, — кажа Люся. — Калі мяне выпусцілі з ІЧУ, мой тэлефон проста разрываўся — столькі было слоў падтрымкі і ўдзячнасці! Пасля гэтага яшчэ больш хацелася рабіць нешта добрае, хоць падаецца, што я нічога такога і не зрабіла.

Ад гэтага, напэўна, і вырастаюць крылы. Ад гэтага і не можаш вярнуцца ў звычайнае жыццё і рабіць выгляд, што нічога не адбываецца ні ў краіне, ні ў горадзе... Так, тое, за што сотнямі яны выходзілі ў цэнтр горада, яшчэ не паўтарылася. Але сяброўства некалькіх дзясяткаў гараджан трымае іх нібыта на крылах: яны ў гэтым горадзе — не самотныя.



# Белае віно і чырвонае

Аксана КОЛБ

**Уладзімір Някляеў — адзін з тых, каго прынята называць сумленнем нацыі. Чалавек, які прайшоў выпрабаванне і «меднымі трубамі», і турмой. Яго раманы не пакідаюць абыякавымі, яго паэмы заварожваюць і ўлюбляюць. 9 ліпеня Уладзімір Пракопавіч адзначыць сваё 75-годдзе. Напярэдадні ён пагадзіўся адказаць на пытанні для чытачоў НЧ.**



***— 75 — вельмі прыгожая лічба. Гэта тры разы па 25. Ужо ёсць немалы досвед, шмат дасягненняў. Але, мне здаецца, мала хто прыходзіць да гэтай даты з такой 25-гадовай душой, як у вас. Ці памыляюся?***

— Чаму мала хто? Па-мойму, да скону ў кожным чалавеку душа нават не 25-гадовая, а дзіцячая...

Давайце вось што зробім. Нядаўна я скончыў раман «Гэй Бэн Гіном», у якім шмат аўтабіяграфічнага. І калі вы не супраць, паспрабую адказаць на некаторыя вашы пытанні цытатамі з рамана.

Вось адказ на першае:

«Паўсюль паперадзе Віктара (такое імя ў героя рамана) бегла ягонае дзяцінства. Вунь яно бяжыць пастушком па выгане, грае на зробленай дзедам са старой яблыні жалейцы. Грае гучна, жалейка з прыгожым чорна-белым каровіным рогам, і мелодыя «Цяцеркі», з якой ён пачынаў вучыцца граць, разліваецца па абодвух берагах Крэўлянкі, цячэ па пагорках. Вось дабегла дзяцінства да Багушоўскага лесу, куды паклікаў маленькага Віктара дзед, каб дапамог састагаваць, бо дождж можа пайсці, падсушанае ў пракосах сена, і, калі паставілі стагі, Віктар залез на адзін, лёг, глядзеў у неба, на якім высыпалі зоркі, а дзед, прываліўшыся спінай да стога, расказваў яму казку.

Калі Віктар, ужо дарослы, успамінаў сябе маленькага, дык не бачыў асаблівай розніцы паміж сабой тым і цяперашнім. Бо што змянілася? Тое, што ён чытае лепш, чым чытаў у пяць гадоў? Але нават гэта — яшчэ як сказаць, калі тады ўзнікала адчуванне вышыні, на якую ўздымаўся ён з тымі, пра каго чытаў, а цяпер не ўзнікае.

Ці яго змяніла тое, што скончыў школу, тэхнікум, інстытут, што болей ведае? А што ён ведае, пра што дазнаўся? Пра тое, што пісалі шумеры? Ці пра тое, што ў космасе ёсць чорныя дзіры? Дык яны і ў ім ёсць. І ў цяперашнім, і ў малым былі — ён з жахам у іх глядзеў.

У самім сабе ён заўсёды заставаўся гэткім самым, якім быў некалі. Само жыццё ў сабе адчуваў нязменным, змяняліся толькі ўмовы, абставіны жыцця. Ягоныя дэкарацыі. Са стога сена пад Багушоўскім лесам жыццё перанесла яго на сцэну Крамлёўскага палаца з'ездаў — сам ён дзеля гэтага нічога не рабіў. Толькі прымаў прапановы. Гульню ў прапанаваных дэкарацыях. І гуляўся ў іх той самы хлопчык са стога сена пад Багушоўскім лесам».

***— Мне здаецца, амаль чвэрць жыцця ўнутры вас змагаюцца паэт і палітык, а можа і не змагаюцца, а наадварот дапамагаюць адзін аднаму. Як атрымлівалася аберагаць і пеставаць прагу творчасці паэта і ў той жа час захоўваць логіку і практычнасць палітыка?***

— Я заўсёды быў паэтам, які па неабходнасці ўзяў на сябе ролю палітыка. У чым была неабходнасць? У тым, каб не сталася жаху, у якім мы жывём сёння.

Зрэшты, кожны глядзіць на мяне як на паэта і як на палітыка па-рознаму. Таму зноў цытата ў адказ. Гэтым разам не з рамана, а з эсэ майго даўняга сябра, аднаго з найлепшых сучасных рускіх паэтаў Ігара Шклярэўскага. Тэкст апісаны па-руску, не буду займацца перакладам.

«Вот я иду с Некляевым по Минску. Увидев издали опального поэта, его знакомые перебегают на другую сторону улицы.

"Динь-динь..."

Его мобильный телефон звонит как колокольчик прокаженного.

Это политика.

В политике он оказался случайно. Затянуло азартом. Стоп! На попутной машине — домой! "Пойдешь направо — шумит дубрава, пойдешь налево — холмится Крево..." За дубравой — черника, по холмам — земляника, и петляет между земляничными холмами речка Кревлянка с форелями. Их можно ловить корзиной, любуясь мокрым серебром улова. И никакой политики! Как говорил Портос из любимых "Трех мушкетеров": "Не то я убегу домой".

Впрочем, сам Некляев говорит, что привела его в политику боль. Боль за судьбу родного языка, которая в белорусских поэтах еще от Купалы и Колоса. И даже раньше...

Политика ушла, боль осталась».

***— Ці можна сказаць што 2020 стаў для вас жыццёвым падарункам? Для краіны, мне здаецца, ён, сапраўды, як доўгачаканае дзіця, што пра гэта думаеце? Няма задумы рамана пра гэтыя падзеі?***

— Складана адказаць на гэтае пытанне. Таму нават цытаты ў адказ не магу падабраць, а не тое што раман напісаць. Хоць у задуме ён ёсць.

У жніўні 2020-га я ўбачыў, адчуў, што апошнюю чвэрць жыцця пражыў, пратрываў не дарма. Пасеенае ўзышло, жыццё ўсё ж, як вы сказалі, зрабіла падарунак. Падаравала свята. Але пасля падаўлення беларускай рэвалюцыі годнасці, забойстваў і катаванняў, здзекаў з ні ў чым не вінаватых людзей, глумлення з нацыянальных сімвалаў, культуры, мовы, — усяго, што для мяне святое, пачуццё свята пацяснілася пачуццём віны: я не змог гэтага не дапусціць.

Вось глядзіце: чалавека ні за што арыштоўваюць і садзяць у турму. Вядома яго імя, вядомая турма, у якую яго пасадзілі. Ён нарадзіўся беларусам, ён грамадзянін Рэспублікі Беларусь, адна з дзяржаўных моваў якой — па Канстытуцыі! — беларуская. І ён просіць турэмшчыкаў размаўляць з ім на роднай мове. На дзяржаўнай беларускай. А яго за гэта дручкамі — і ў карцар! Раз просіць — у карцар! Два просіць — у карцар! Для перавыхавання з беларуса ў рускага са знакамі якасці. А знакі гэтыя — сляды дручкоў!..

Вось як мне, беларускаму паэту, глядзець на тое, як знішчаецца не толькі мова, а ўсё беларускае ў Беларусі?.. І як ставіцца да ўлады, якая не толькі дазваляе знішчаць, але і заахвочвае знішчальнікаў, даючы ім права беспакарана забіваць тых, хто ў сваёй краіне, як кажа ўлада, «лішнія людзі»? Якія лішнія людзі, як такое можа быць?!

Паэт, пісьменнік, наогул гуманітарый не можа такой уладзе служыць. Лаяльнасць да сябе такая ўлада можа толькі купіць. І толькі ў тых, хто не мае ніякага нацыянальнага маркёра.

***— У 2003 годзе выйшаў ваш раман «Лабух», які адразу стаў бестселерам. І шмат хто падазраваў, што прататыпам гераіні рамана Лі-Лі стала тагачасная Ліка Ялінская, цяперашняя Анжаліка Агурбаш. Вы яе добра ведалі, яна выконвала шмат якія песні на вашы вершы. Была паспяховай, уваходзіла ў абойму артыстаў, з якімі цацкалася ўлада. І раптам... Ці здзівіла вас яе сённяшняя грамадзянская пазіцыя?***

— Не. Калі яна прататып Лі-Лі з «Лабуха» (а я як не казаў, гэтак і не буду казаць, так яно ці не), дык тая Лі-Лі — дзяўчо з характарам. З такімі ўлада не цацкаецца.

Сёння пра яе шмат чутак, плётак. Ну, кшталту: славу сваю за грошы купіла. Поўная лухта. Яна працаўніца, Ліка. Вялікая працаўніца. На кожную рэпетыцыю, на кожны запіс песні першай прыходзіла і сыходзіла апошняй. Яшчэ нікога няма: ні музыкантаў, ні гукарэжысёраў, ні асвятляльнікаў, а яна ўжо ў студыі, гатовая працаваць і ўдзень, і ўночы.

Талент ён талент, але любы, нават самы вялікі талент патрабуе працы — і Ліка працавала, не шкадуючы сябе. Такой самаддансці ў творчасці я мала бачыў. І такая, самааддданая яна і ў жыцці, у каханні. Зусім не за грошы, як балбочуць, замуж выходзіла. Таму і драматычна ўсё ў яе складвалася — за грошы праблем бы такіх не мела.

А што да таленту... Песню «Раз ды разок» мы з Валерыем Івановым напісалі для Уладзіміра Мулявіна. Але ён быў заняты сваім праектам, усё адцягваў запіс, і тут кіраўнік «Верасоў» Васіль Раінчык нам прапанаваў: «А няхай Ліка праспяваць паспрабуе». Якая Ліка, калі ўсе ноты пад Мулявіна — і па вершах чыста мужчынская песня? «Ой ты віно-гаркота, піў бы, каб не лянота...» Але паспрабавалі. Ліка ведала, што пяе песню Мулявіна, і так выкладвалася на рэпетыцыях — ледзь не памерла на гэтай песні. Мулявін пачуў на канцэрце, я спытаў: «Ну як?..» — і ён падняў вялікі палец. Потым падышоў да Лікі, абняў: «Малайчынка!..»

Сёння я абдымаю яе за мужны ўчынак. Малайчынка, Ліка!

***— Як і шмат хто іншы, я зачытвалася вашымі кавід-***

**У жніўні 2020-га я адчуў, што апошнюю чвэрць жыцця пражыў не дарма. Пасеенае ўзышло, жыццё ўсё ж зрабіла падарунак. Але пасля падаўлення рэвалюцыі пачуццё свята пацяснілася пачуццём віны: я не змог гэтага не дапусціць**



> **Мова народа, — казаў пісьменнікам белазубы кеніец, — ягоная зброя. А заваёўнікі прыходзяць са сваёй. І народ, які прымае чужую мову, прымае чужое валадаранне. Куля — сродак фізічнага падпарадкавання, а мова — сродак падпарадкавання духоўнага**

***ными нататкамі. Гэта будучы сюжэт?***

— Я перахварэў на кавід цяжка. З гарачкай, кашмарамі. Баяўся сканаць. Калі ўсё ж ачуняў, дактары сказалі, што баяўся не дарма. Але ўбачыўшы той кашмар, які дзеецца ў нашай краіне ў рэальнасці, падумаў: можа, лепш бы не ачуньваў?..

З гэтых кашмараў і з гэтай рэальнасці і нарадзіўся сюжэт.

Я перакананы, што кавід мае лабараторнае паходжанне. Як і чаму ён збег з лабараторыі — частка сюжэта. Але не асноўная.

Памятаеце гісторыю пра марскі круізны лайнер, на якім яшчэ год таму ўсчалася ланцуговая рэакцыя каронавіруса, пра што пісалі ўсе СМІ. Лайнер прышвартавалі ў японскім порце, але ні пасажыраў, ні каманду (амаль чатыры тысячы чалавек) не пусцілі на бераг. Ізалявалі на караблі — і я ўявіў, што на ім тварылася! Сітуацыя страшней, чым на «Тытаніку», бо там пагроза была ўсім вядомая, вада, а тут — невядома што! І ад гэтага невядома чаго людзі задыхаюцца, паміраюць, усе ўсіх у гэтым падазраюць, і ніхто ад гэтага ніяк і нідзе ўберагчыся не можа — хіба толькі рыбінай стаць і ў вадзе ўратавацца. У выратавальнай стыхіі, якая для «Тытаніка» была пагрозай.

Чалавецтва ў пандэміі, у аўтарытарызме, таталітарызме, у кашмарах, якія само яно ствараe і за якія адказвае, — вось асноўны сюжэт задуманага твора, які пачаў паціху пісаць. Паціху, бо яшчэ ад папярэдняга рамана «Гэй Бэн Гіном» не адышоў. Кожны раман, кожная паэма забірае ў мяне вельмі шмат энергіі, эмоцый, сіл, і патрэбны нейкі час, каб зноў іх набрацца.

***— Няма жадання пераасэнсаваць пражытае і перажытае, каб пайсці нейкім іншым шляхам чарговыя 25 гадоў?***

— Па-мойму, я ўжо не раз адказваў на падобныя пытанні. Так што магу сябе самога цытаваць...

Ці не шкадую пра зробленае, ці не хацеў б нешта перарабіць? Ні пра што не шкадую! Пра што шкадаваць, калі нічога нельга перарабіць? Калі ўсё не ззаду, а наперадзе, колькі б яго, таго, што наперадзе, ні засталося...

***— Напярэдадзе ў вас 75-гадовы юбілей. Свята, якое бывае раз у жыцці. Як вы да яго падрыхтаваліся?***



— Ну чаму раз у жыцці? Былі ўжо юбілеі. Апошні афіцыйны, праўда, 25 гадоў таму, калі была напісаная кніга «Прошча».

Цяпер вось напісаная кніга «Гэй Бэн Гіном». Гэта мой самому сабе на 75 гадоў падарунак. Можа стацца, выніковая кніга жыцця. Спроба адказаць на пытанне: я сам выбраў свой шлях, ці нехта выбраў яго за мяне? Сваё пражыў я жыццё ці не сваё?

Няпростае гэта пытанне. Лёсавае. Шмат хто і не сваім шляхам ідзе, і не сваім жыццём жыве. І так прыходзяць да драмы, да трагедыі. Як асобны чалавек, гэтак і народ.

Можа быць, яшчэ не да трагедыі, але да драмы мы ўжо прыйшлі. Дык якія святы, юбілеі? Калі ты не можаш запрасіць тых, каго хацеў бы, бо яны ў турме. Міколу Статкевіча, Паўла Севярынца... Палічыў: па меншай меры сотня людзей, якіх я ведаю асабіста, дзясяткі з іх блізка — за кратамі. Тут пачнеш на юбілеі спяваць — горла перасмыкне.

Тым не менш радня з сябрамі ўгаварылі мяне неяк адзначыць 75-годдзе. «Да ста, сказалі, можаш не дацягнуць», — і я згадзіўся.

Як адзначыць?.. Вырашылі каля сцен Крэўскага замка паказаць сцэну з маёй нядаўна напісанай драмы «Ягайла» (якая ў Крэўскім замку і адбываецца), пачытаць вершы. Але ўлады сказалі: «Нез-зя!»

Ну, я разумею: страх страхам, крэсла крэслам — і сказалі так, як ім загадалі, як бы не самі... Але не даць чалавеку адзначыць дзень народзінаў там, дзе ён нарадзіўся, — гэта ўжо не проста чынавенскае рвенне, а нейкая іншая, адрозная ад той, якая была яшчэ нядаўна, свядомасць. Парушэнне нашага ладу жыцця, чалавечых узаемаадносінаў, традыцый...

Ну ды такой бяды. Хоць, вядома, бяда ў нашай краіне. І няпроста, ой няпроста будзе з яе выбрацца...

***— Што б вы хацелі пажадаць сабе 25-гадоваму, а разам з тым і ўсім сённяшнім маладым беларусам?***

— Быць беларусамі! Быць імі не адно ў назве, а ў сутнасці. Гэта значыць: у мове, культуры, свядомасці... Нельга быць беларусам у нечым адным — і грэбаваць іншым. Найперш мовай, чым большасць дасюль грэбуе.




Скончу, як і пачаў, урыўкам з рамана «Гэй Бэн Гіном». Бычык у ім — Васіль Быкаў, Віктар — персанаж з біяграфіяй аўтара. Урывак гэты датычыцца якраз праблемы мовы, тлумачыць маё разуменне гэтай далёка не толькі лінгвістычнай праблемы.

«Пад сярэдзіну сямідзесятых, калі Віктар ужо кінуў літінстытут і пакінуў Маскву, ён амаль месяц прабыў разам з Бычыкам у Доме творчасці пісьменнікаў у Ялце. Дом насіў імя А.П. Чэхава, і ў ім можна было сустрэць не толькі знакамітых савецкіх празаікаў і паэтаў, але і замежных. Пабла Неруду, Джані Радары, Джэймса Олдрыджа, Ёганаса Бэхера, Джона Прыстлі... І быў у той час у тым Доме творчасці пісьменнік з Афрыкі, чарнаскуры і белазубы кеніец Нгугі Ва Тхыёнга, які, дасканала ведаючы ангельскую мову, пісаў на мове кікуйю. На мове свайго племені, адной з нацыянальных моў Кеніі, якую называў Нгугі Ва Тхыёнга прааййчынай чалавецтва, і якую за яе доўгую гісторыю хто толькі ні заваёўваў, ні рабаваў! Партугальцы, арабы, ангельцы...

Да сярэдзіны шасцідзясятых XX стагоддзя “прааййчына чалавецтва” ўсё яшчэ заставалася калоніяй Вялікай Брытаніі, і калі савецкія пісьменнікі на літаратурнай вечарыне ў Доме творчасці імя Чэхава спыталі Нгугі Ва Тхыёнга, чаму ён піша не на ангельскай, сусветнай мове, а на той, якой ніхто ў свеце, апроч людзей племені кікуйю, не ведае, ён адказаў, што піша на мове, якая змагаецца за свабоду ягонага народа. “Мова народа, — казаў савецкім пісьменнікам, грузінам, украінцам, літоўцам, беларусам і казахам, кіргізам і таджыкам, латышам, узбекам і татарам, туркменам, малдаванам, эстонцам і калмыкам, абхазам і чачэнцам чарнаскуры і белазубы кеніец, — ягоная зброя. А заваёўнікі прыходзяць са сваёй. І народ, які прымае чужую мову, прымае чужое валадаранне. Куля — сродак фізічнага падпарадкавання, а мова — сродак падпарадкавання духоўнага”, — казаў кенійскі пісьменнік Нгугі Ва Тхыёнга, маючы на ўвазе зусім не тое, пра што падумаў, гэтак ускочыўшы, нібы яго тарантул джыгануў, сакратар парткама Саюза савецкіх пісьменнікаў Тынянкоў: “Но это не касается великого русского языка, объединяющего народы СССР!..”

“Ідыёт...” — сказаў, седзячы побач з Віктарам, Бычык, пра якога, зайздросцячы ягонай славе, пляткарылі, быццам аповесці свае ён піша па-руску, а на беларускую мову перакладае. А пасля, калі на гаўбцы ягонага пакою выпівалі чырвонае крымскае віно, прамовіў, гледзячы некуды за Чорнае, якое раптам усхадзілася, узбушавалася, мора: “Куля — сродак фізічнага падпарадкавання, а мова — сродак падпарадкавання духоўнага. — І падняў келіх. — За племя кікуйю!..”»

Ёсць у мяне песня (спявала яе, дарэчы, Ліка) «Белае віно і чырвонае». І на 75-годдзе я (калі нічога са мной да таго дня не здарыцца) вып'ю тры келіхі. Адзін келіх белага віна, другі — чырвонага, і трэці — зноў белага. За Беларусь!

**Фота НЧ і з фэйсбука Уладзіміра Някляева**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Чаму прайгралі ў футбол?

У Расіі нарэшце знойдзены адказ на самае актуальнае ў апошні час пытанне: чаму футбалісты зборнай Расіі ганебна прайгралі на чэмпіянаце Еўропы?

Адказ прапанавалі ў Рускай Праваслаўнай Царкве (РПЦ). Там заявілі, што зборная Расіі па футболе духоўна слабая, а гульцы не ўмеюць маліцца перад матчамі. Таму і прайграюць. «Нашы футбалісты маюць патрэбу ў духоўнай дапамозе святара», — лічыць мітрапаліт Мурманскі і Манчагорскі Мітрафан. Служыцель царквы ўпэўнены, што даўно надышоў час замяніць атмасферу, якая пануе на полі. І перш за ўсё, забараніць лаянку сярод спартоўцаў і больш часу прысвячаць духоўным настаўленням і малітвам.

Паводзіны трэнераў, якія часцяком гарлапаняць і мацюкаюцца, мітрапаліт назваў непрымальнымі. «Вядома, наспела рашэнне гэтай праблемы — павінны быць духоўнікі ў нашай зборнай, яны абавязкова мусяць займацца акармленнем нашых хлопцаў. Таму што, на мой погляд, тут менавіта недахоп духоўнай падрыхтоўкі: яны (футбалісты) такія слабенькія», — заявіў архірэй журналістам.

**Паводле расійскай прэсы**

### АЎСТРАЛІЯ. Каменданцкая гадзіна для катоў

Муніцыпалітэт горада Нокс, што ў Аўстраліі, увёў кругласутkавую «каменданцкую гадзіну» для катоў у мэтах абароны дзікай прыроды.

У адпаведнасці з правіламі, якія ўступаюць у сілу з 1 кастрычніка, уладальнікі хатніх жывёл у горадзе Нокс будуць вымушаны трымаць сваіх катоў дома ўвесь дзень. Хатніх гадаванцаў хіба што можна будзе выпускаць на двор, аднак толькі пры наяўнасці там высокай агароджы. Адначасова ствараецца спецыяльная служба, чальцы якой будуць хадзіць па вуліцах, каб збіраць усіх блукаючых котак.

Як кажуць у ратушы, «утрыманне катоў у памяшканні ўладальнікаў абароніць дзікую прыроду і прадухіліць прычыненне шкоды суседзям і іх хатнім жывёлам».

Праўда, жыхары горада Нокс так не думаюць і адкрыта кажуць, што будуць парушаць закон, нягледзячы на штрафы. У тым ліку яны скардзяцца, што не здольныя кантраляваць паводзіны жывёлаў, якія ігнаруюць патрабаванне муніцыпалітэту сядзець дома.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Прайгралі праз мову?

Выступ украінскіх футбалістаў на Еўра запомніўся і моўным скандалам. Шмат украінскіх палітыкаў і культурных дзеячаў асудзілі гульцоў зборнай, якія на прэс-канферэнцыях размаўлялі выключна па-руску. Некаторыя нават заклікалі суайчыннікаў адмовіцца ад падтрымкі каманды «маскавітаў».

Прыгадалі таксама, што трэнер Андрэй Шаўчэнка ў 1990-я гады агітаваў галасаваць за партыю Медведчука — цяпер вядучага прарасійскага палітыка краіны. Пройгрыш зборнай Украіны ад Англіі з лікам 0:4 выклікаў новы шквал каментараў. Вядома ж, «моўныя актывісты» ўбачылі ў гэтым пакаранне вышэйшых сіл за рускамоўнасць гульцоў і трэнера.

Зрэшты, яны ж сталі і ахвярамі сваёй крытыкі. Шмат хто жартам заклікае ў наступны раз уключаць у склад зборнай выключна аматараў татальнай украінізацыі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Дон Кіхот стане чарнаскурым



Іспанскі міністр па пытаннях інтэграцыі, сацыяльнага забеспячэння і міграцыі прыдумаў, што рабіць з мігрантамі, якія бязлітасна атакуюць краіну з боку Афрыкі.

У міністэрстве вырашылі даваць ім жытло ў закінутых вёсках цэнтральнай Іспаніі. Там з-за многіх прычын вельмі шмат вёсак, жыхары якіх даўно перабраліся ў гарады. Цяпер туды збіраюцца пасяліць мігрантаў, якім дазволяць весці сельскую гаспадарку.

Па словах міністра, гэтая рэформа выправіць сітуацыю з павальным беспрацоўем сярод маладых мігрантаў. Чыноўнік таксама сцвярджае, што ўжо атрымаў канкрэтныя прапановы на гэты конт ад шэрагу адміністрацый.

Зрэшты, шмат хто сумняваецца, што афрыканцы, асабліва маладыя, захочуць стаць фермерамі. У любым выпадку, ідэя міністра выклікала шмат іранічных каментараў.

У тым ліку ўспамінаюць, што цэнтральная Іспанія — гэта радзіма Дон Кіхота. Калі афрыканцы сапраўды засеняць цэнтр Пірынеяў, то Дон Кіхота давядзецца выяўляць як чарнаскурага.

**Паводле французскай прэсы**



Фота www.bbc.com

# Калі кандыдат — вораг дзяржавы

Алег НОВІКАЎ

**Ва Узбекістане стартавала прэзідэнцкая кампанія, маркёрам якой адразу стаў рост ціску на патэнцыйных альтэрнатыўных кандыдатаў.**

Выбары ўзбекскага гаранта пройдуць 24 кастрычніка. Часу да дня галасавання, як бачым, не так шмат, аднак пакуль ніякай мегаактыўнасці на гэты конт у лагеры ўлады не назіраецца. Прэзідэнт Шаўкат Мірзіёеў дзяжурна праводзіць пасяджэнні, падпісвае дакументы і, натуральна, дае мудрыя інструкцыі. Напрыклад, днямі ён запатрабаваў, каб моладзевыя танцавальныя фэсты з гэтага часу праводзіліся не толькі ў абласных цэнтрах, але і ў кожным раёне і горадзе.

Такі ціхамірны стыль Шаўката Мірамонавіча некаторыя тлумачаць тым, што схема па атрыманні «элегантных перамог» кіраўніком ва Узбекістане больш-менш адпрацаваная. Яе альфай і амегай, напэўна, з'яўляецца абзац у выбарчым кодэксе, які дазваляе балатавацца ў прэзідэнты толькі прадстаўнікам зарэгістраваных партый.

Усе існуючыя ў краіне партыйныя структуры (Народна-дэмакратычная партыя, «Справядлівасць», ліберал-дэмакраты і Экалагічная партыя), як можна лёгка здагадацца, лаяльна ставяцца да прэзідэнцкай адміністрацыі. Прычым градус гэтай лаяльнасці настолькі высокі, што на некаторых прэзідэнцкіх выбарах іх прадстаўнікі заклікалі галасаваць не за сябе, а за кандыдатуру прэзідэнта.

Не дзіўна, што кандыдатам ад улады за 30 гадоў узбекскай незалежнасці толькі адзін раз давялося змагацца ва ўмовах сумленных выбараў. Гэта здарылася ў далёкім 1991-м, калі правадыр партыі «Эрк» Мухамад Саліх кінуў выклік экс-старшыні мясцовай кампартыі Ісламу Карымаву. Паводле афіцыйных даных, за Саліха тады было аддадзена 12,7 працэнта галасоў. Як лічаць некаторыя медыя, успаміны пра тыя выбары дасюль выклікаюць у кулуарах дзяржапарату нервовую рэакцыю.

Не супакоіў «партыю ўлады» і абсалютны кантроль над выбарчым працэсам, які паўстаў падчас умацавання аўтакратыі Карымава, і які ў прынцыпе дазваляе маляваць крытыкам мінімальную лічбу. Так, апошні ў гісторыі мясцовых выбараў няўрадавы кандыдат, які балатаваўся ў 2007-м, атрымаў, паводле ЦВК, менш за тры працэнты. Для поўнай перастрахоўкі менавіта пасля тых выбараў права балатавацца інакш як праз зарэгістраваныя партыі было скасаванае.

Натуральна, былі спробы зарэгістраваць нейкую незалежную партыю, якія заўсёды заканчваліся фіяска. Стваральнікам партый у Мінюсце, як павіла, кажуць, што тыя не падалі ўсе патрэбныя паперкі або знаходзяць несапраўдны подпіс у спісе тых, хто падтрымлівае паўстанне новай палітсілы. Паколькі ўзбекскі закон патрабуе для рэгістрацыі 20 тысяч подпісаў, знайсці памылку не так ужо і цяжка.

Як бачым, мадэль узбекскіх выбараў вельмі жорсткая. Тым не менш, як ні парадаксальна, нават ва Узбекістане ўвесь час знаходзяцца персоны, якія намагаюцца стаць альтэрнатыўнымі кандыдатамі. Так, актыў незарэгістраванай партыі «Эрк» 12 траўня высунуў сваім кандыдатам у прэзідэнты спевака Джахангіра Атаджанава. Фінал імпрэзы, якая праходзіла ў прыватным доме спевака, аказаўся феерычным: туды ўварваліся невядомыя людзі і разагналі ўсіх прысутных.

На наступны дзень Атаджанава і яго сяброў з прычыны апісаных падзей выклікалі ў паліцыю. Апазіцыянеры наіўна спадзяваліся, што паліцэйскія збіраюцца высвятляць прыкметы пагромшчыкаў для іх пошуку. На самай справе, абаронцаў правапарадку цікавіў не пагром, а палітычная дзейнасць сяброў «Эрк».

Вучоны-эканаміст, доктар эканамічных навук, былы рэктар Тэрмезскага дзяржаўнага ўніверсітэта Хідзірназар Алакулаў абвясціў пра планы па стварэнні ва Узбекістане сацыял-дэмакратычнай партыі «Справядлівасць і развіццё» і пра намеры балатавацца ў прэзідэнты ў 2021 годзе. Усіх жадаючых запісацца ў партыю ён заклікаў на ўстаноўчы сход да сябе ў дом. Людзі сапраўды прыйшлі — аднак у большасці правакатары, якія сарвалі мерапрыемства.

Адначасова ўзяліся за моладзь, якая часцей за ўсё цікавіцца палітыкай. У ВНУ накіравалі прадстаўнікоў сілавых органаў, якія папярэджваюць студэнтаў аб негатыўных наступствах кантактаў з ініцыятарамі стварэння новых палітычных партый.

Як піша прэса, на гэтых выбарах упершыню заняліся інтэрнэтам. Яшчэ ў сакавіку быў прыняты закон, які прадугледжвае пакаранне за абразу або паклёп у дачыненні да прэзідэнта Узбекістана «ў сетках тэлекамунікацыі ці сусветнай інфармацыйнай сетцы інтэрнэт». Коштам такой абразы можа быць пакаранне «папраўчымі работамі да 3 гадоў ці абмежаваннем волі ад 2 да 5 гадоў, або пазбаўленнем волі да 5 гадоў».

На думку назіральнікаў, гэты драконаўскі закон не будзе ўжывацца вельмі часта. Ён, хутчэй, патрэбны як прафілактычны сродак, які прымусіць узбекскіх юзераў трымацца далей ад інтэрнэт-чатаў, на якіх абмяркоўваюць курс прэзідэнта і яго асобу. З іншага боку, такі комплекс суровых мераў у краіне, дзе дэмакратычныя выбары праводзіліся амаль 30 гадоў таму, і дзе зарэгістравацца ў якасці кандыдата дысідэнтам нельга, выглядае дзіўна. Стваpаецца ўражанне, што Мірзіёеў з яго атачэннем самі разумеюць: створаны ў краіне суперфільтр ад апазіцыі ўсё роўна не з'яўляецца стопрацэнтнай страхоўкай.

# «Заходні апарат ідэалагічнай дыверсіі»

Алег НОВІКАЎ

**Сярод свежых заходніх кніжных навінак цяжка прайсці міма выдання «За жалезнай заслонай», які распавядае забаўную гісторыю спадарожнікавых антэнаў у падзенні камуністычнай дыктатуры ў Польшчы.**



Фота www.calvertjournal.com

Інфармацыйны пейзаж сацыялістычнай Польшчы вельмі нагадваў савецкі аналаг. Усе медыя, у тым ліку тэлебачанне, былі пад манапольным кантролем дзяржавы ў выглядзе Радыёкамітэта. Пры ім існаваў дэпартамент цэнзуры, які сачыў, каб у эфір не прайшлі «палітычна варожыя або маральна некарэктныя матэрыялы». Тычылася гэта ўстаноўка і матэрыялаў з замежных тэлеканалаў. Таму ледзь не адзіным каналам інфармацыі пра Захад была праграма «Bliżej świata» («Бліжэй да свету»). У ёй польскім гледачам дэманстравалі ўрыўкі з заходняга тэлебачання, музычныя кліпы і іншыя цікавосткі.

Паўстанне прафсаюзу «Салідарнасць» і ўвядзенне ваеннага становішча цалкам змянілі апетыты польскага спажыўца інфармацыі. Шмат людзей наўпрост адмаўляліся глядзець дзяржаўнае тэлебачанне. Менавіта ў той час нарадзіўся папулярны флэшмоб — падчас трансляцыі галоўнай тыднёвай інфармацыйнай праграмы палякі выстаўлялі ў вокнах тэлевізары, а самі масава ішлі на шпацыр.

Паўсталі альтэрнатыўныя медыя, напрыклад, у выглядзе падпольнай прэсы. А ў сярэдзіне 1980-х гадоў нечакана на дапамогу апазіцыі прыйшлі спадарожнікі.

Да пачатку 1980-х гадоў на Захадзе ўжо з’явіліся спадарожнікавыя наборы, якія дазвалялі наўпрост прымаць сігналы, якія трансляваліся з дапамогай тэлекамунікацыйных спадарожнікаў у космасе. Такім чынам, з’явілася магчымасць індывідуальнага прыёму спадарожнікавага тэлебачання.

Навіны пра бясплатную спадарожнікавую тэлевізію хутка дасягнулі Польшчы, і ўжо ў 1983-м была наладжана кантрабанда першых камплектаў для спадарожнікавага ТБ. Праўда, напачатку такое задавальненне было даступна альбо чальцам эліты, альбо тым, у каго былі сваякі на Захадзе.

Аднак хутка талеркі сталі больш даступныя, і ў партыі зразумелі, што дзяржава губляе кантроль над яшчэ адным сектарам камунікацыі. Калі відэамагнітафон быў інструментам для эскапізму ад «гераічных будняў будаўніцтва сацыялізму», то спадарожнікавае тэлебачанне дапамагала атрымліваць палітычны кантэнт.




Вырашэннем праблемы заняліся супрацоўнікі Мінабароны, якія прыйшлі да катэгарычнай высновы. Польскае дзяржаўнае тэлебачанне не зможа супрацьстаяць заходнім яскравым шоу і праграмам. Таму дзейнічаць супраць антэнаў трэба іншымі, як гаварылася ў дакуменце, «канфрантацыйнымі» сродкамі. Спадарожнікавая антэна, як адзначалі ў ведамстве, павінна ўспрымацца як «заходні апарат ідэалагічнай дыверсіі, пагроза інфармацыйнаму суверэнітэту дзяржавы і стану грамадскай свядомасці».

20 лютага 1986 года міністр сувязі апублікаваў указ, які рэгуляваў правы ўлады распараджацца «прыймачамі, прыдатнымі ад агульнага карыстання». Рашэнне аргументавалася праблемамі ўрбаністычнай эстэтыкі. «Як будуць выглядаць дахі дамоў, калі ўсе ўстановяць на іх індывідуальныя антэны? У ландшафце павінен быць захаваны нейкі прасторавы парадак», — тлумачыў неабходнасць цыркуляра афіцыёз.

У адпаведнасці з пастановай міністэрства, любы грамадзянін, які хацеў мець спадарожнікавае тэлебачанне, павінен быў атрымаць дазвол на куплю і выкарыстанне новага носьбіта. Кошты таксама былі вызначаныя. Прыбор каштаваў фантастычную на тых часах суму — 1500 долараў ЗША ў эквіваленце. На той час сярэдні заробак паляка складаў па курсе толькі 30 долараў.

Таксама было абвешчана, што дазволы на антэны будуць выдаваць па прынцыпе сацыяльнай патрэбы. То-бок, у першую чаргу прыборамі будуць забяспечаныя дзяржаўныя ўстановы і асобы, якія маюць патрэбу ў іх для працы, — напрыклад, журналісты або даследчыкі папулярнай культуры. У дадатак патрабаваўся дазвол Нацыянальнай радыёінспекцыі, якая зацягнула працэс складання правілаў для выдачы тых дазволаў прыкладна на год. Такім чынам, неўзабаве законнае валоданне і выкарыстанне любога прыватнага спадарожнікавага тэлебачання ў Польшчы аказалася па-за законам.

Зрэшты, народ ігнараваў інструкцыі. Больш за тое, частка кампартыі была абураная абсурднасцю бюракратычнай машыны, і на старонках сваіх выданняў даводзіла, што час манаполіі на інфармацыю прайшоў. У дадатак тады пад уплывам савецкай перабудовы польская апазіцыя чарговым разам выйшла з падполля. Зноў выбухнулі страйкі і пратэсты. На гэтым фоне міліцыя не вельмі актыўна змагалася з парушальнікамі пастановы пра рэгістрацыю антэнаў.

Аднак сам закон фармальна дзейнічаў яшчэ тры гады. Толькі ў апошнія месяцы існавання Польскай Народнай Рэспублікі камуністычныя ўлады вырашылі саступіць грамадству. 13 лютага 1989 года міністр сувязі выдаў указ, які практычна адмяніў усе існуючыя абмежаванні для доступу да спадарожнікавага тэлебачання. Тым не менш, нейкая агіда ў народзе за праслед антэнаў, падаецца, засталася. Адзін з аўтараў зборніку «За жалезнай заслонай» называе правал камуністаў на выбарах у тым жа годзе «калектыўнай поўхай ад карыстальнікаў антэнаў».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Дэбрэцыян Гебрэмікаэль



Эфіопскі палітык, старшыня Народнага фронту вызвалення Тыграя (TPLF), які ў тым ліку ваеннымі метадамі адстойвае правы насельніцтва правінцыі Тыграй, нечакана для ўсіх атрымаў перамогу над федэральнай арміяй Эфіопіі, якая акупавала правінцыю ў лістападзе мінулага года.

Тады TPLF не пагадзіўся з рашэннем федэральных уладаў аб пераносе парламенцкіх і мясцовых выбараў з-за пандэміі, і правёў уласнае галасаванне ў штаце Тыграй, дзе атрымаў 98,5% галасоў. Гэта прывяло да ваеннай канфрантацыі з Адыс-Абебай. Першапачаткова лічылася, што цэнтр навёў парадак у бунтоўным рэгіёне. Аднак на пэўным этапе Народны фронт заваяваў падтрымку мясцовага насельніцтва, якое сутыкнулася з голадам, этнічнымі чысткамі і ваеннымі злачынствамі з боку салдата цэнтра. У выніку ў Тыграі пачалася партызанская вайна пад эгідай таго ж TPLF. На сёння Народы фронт вярнуў кантроль над усімі буйнымі гарадамі штата. Пры гэтым за два тыдні сепаратысты здолелі разграміць пяць дывізій, а колькасць ваеннапалонных перавысіла 7 тысяч чалавек.

Цікава, што пры гэтым у якасці ўмовы для перамір’я Народны фронт патрабуе не пашырэння суверэнітэту для краю, а расследавання злачынстваў, учыненых у гэтым рэгіёне ўладамі Эфіопіі. Адыс-Абеба пакуль дамаўляцца не збіраецца. Зрэшты, параза эфіопскай арміі — гэта страшэнны рэпутацыйны ўдар для ўрада, які можа ў любы момант пайсці ў адстаўку.

### Ангела Меркель



Канцлер Германіі вярнула аптымізм тым жыхарам балканскіх краін, якія бачаць будучыню сваіх дзяржаў у складзе ЕС. Гаворка пра Сербію, Албанію, Паўночную Македонію, Косава і Боснію і Герцагавіну. Нагадаем, што гэтыя краіны планавалі прыняць у ЕС прыкладна да канца гэтай дэкады. Аднак пандэмія, выклікаˈная ёй эканамічная стагнацыя і канфлікты ўнутры ЕС негатыўна паўплывалі на дынаміку выканання праэктаў.

Усіх заспакоіла Меркель. Кіраўнік ФРГ упэўненая, што гэта ўсяго толькі паўза. «Я ўпэўненая, што шэсць балканскіх краін у сілу геапалітычных чыннікаў стануць сябрамі Еўрасаюза», — заявіла 6 ліпеня Меркель па выніках канферэнцыі на тэму Заходніх Балкан. Па яе словах, «стымуляванне працэсу ўступлення заходнебалканскіх краін у ЕС адпавядае спрадвечным інтарэсам Еўрапейскага саюза». Больш за тое, палітык заявіла, што прэзідэнт Францыі Эмануэль Макрон «цалкам выразна» выказаўся за ўступленне заходніх балканскіх дзяржаў у Еўрасаюз. Толькі Балгарыя і Нідэрланды па розных прычынах ставяцца да падобнага рашэння больш стрымана.

Такім чынам, рух ЕС на ўсход пасля заканчэння пандэміі, хутчэй за ўсё, працягнецца. Што тычыцца тэмпаў, то яны, відавочна, будуць залежаць ад вынікаў выбараў у Бундэстаг восенню гэтага года і прэзідэнцкіх выбараў у Францыі налета.

### Вячаслаў Валодзін



Спікер Дзярждумы Расійскай Федэрацыі 6 ліпеня зрабіў заяву, якую многія назіральнікі палічылі знакавай. У размове з журналістамі ён адзначыў: «Расія пры прэзідэнце Уладзіміры Пуціне стане яшчэ мацнейшай, забяспечваючы мірнае жыццё і дабрабыт яе грамадзян, таму неабходна зрабіць усё, каб ён як мага даўжэй заставаўся ва ўладзе».

Гэтыя словы міжволі прымусілі ўзгадаць новую рэдакцыю Канстытуцыі РФ, якая была прынятая ў мінулым годзе. Тая рэдакцыя дазваляе Пуціну балатавацца яшчэ на два прэзідэнцкія тэрміны, і ў выпадку перамогі заставацца на пасадзе кіраўніка дзяржавы аж да 2036 года. Сам Пуцін, праўда, ад адказаў на пытанне, ці пойдзе ён зноў на выбары, звычайна ўхіляўся. Зыходзячы са словаў Валодзіна, можна дапусціць, што Пуцін сапраўды застанецца ў Крамлі і пасля 2024-га, калі скончыцца цяперашняя прэзідэнцкая кадэнцыя. Тым больш, што Расія сапраўды сутыкнулася з шэрагам выклікаў і змена лідара можа як мінімум паўплываць на стабільнасць пабудаванай Пуціным мадэлі.

Зрэшты, некаторыя дапускаюць, што Валодзін проста зрабіў кіраўніку прыемнае. Сапраўды, яго прамова — гэта нейкі каскад падхалімскіх заяў аж да параўнання Пуціна са Сталыпіным.

# Прысуджаныя да расстрэлу

Анастасія ЗЕЛЯНКОВА

**Нават пасля смерці імёны ахвяраў і іх катаў усё роўна ўсплывалі. А на допытах ужо былыя следчыя аказваліся вельмі гаваркімі, даючы паказанні на дзясяткі сваіх калегаў.**

Пра тое, як разбіраліся са шрубкамі сістэмы, выдатна паказвае справа выкладчыка Мірона Ільіча Глобуса, асуджанага ў 1937 годзе.

Дакументы, якія перадаў «Салідарнасці» гісторык Ігар Кузняцоў, унікальныя тым, што ў справе прысуджанага да расстрэлу ўраджэнца Беларусі ўтрымліваюцца яшчэ і звесткі пра далейшы лёс яго следчых, якія фальсіфікавалі пратаколы і выбівалі прызнальныя паказанні.

Так атрымалася, што тыя, хто шчыра быў упэўнены ў сваёй беспакаранасці і строга выконваў устаноўкі вышэйшага кіраўніцтва, самі трапілі пад суд — хтосьці быў арыштаваны і расстраляны праз год, а хтосьці вымушаны быў даваць паказанні праз 20 гадоў.

### «Сістэматычна паклёпнічае на органы НКУС»

Некалькі слоў пра саму «справу Глобуса». Мірон Ільіч нарадзіўся ў Шчучыне ў 1895 годзе. Да моманту арышту ён быў загадчыкам кафедры Томскага дзяржуніверсітэта, з'яўляўся дацэнтам па балістыцы, артылерыйскім інжынерам. На яго рахунку было больш за паўтара дзясятка навуковых прац і 25 вынаходстваў. Але гэта не вyратавала Глобуса ад арышту.

У снежні 1936 года яго затрымалі як удзельніка «контррэвалюцыйнай трацкісцкай групы», якая нібыта здзейсніла забойства Кірава і ў бурнай фантазіі аўтараў абвінавачанняў рыхтавала новыя тэракты супраць лідараў партыі.

Доказам «віны» дацэнта Глобуса паслужылі прызнанні двух іншых арыштаваных выкладчыкаў універсітэта — з адным Глобус аднойчы «неабачліва» згуляў партыю ў шахматы, з другім — дырэктарам — і зусім быў у непрыязных адносінах (таму не падабалася беспартыйнасць падначаленага).

Нягледзячы на ўсю абсурднасць абвінавачанняў, і нават на тое, што абодва яго «змоўшчыкі» прызналіся на судзе, што агаварылі сябе і калегу, суд вынес прысуд: турэмнае зняволенне тэрмінам на 8 гадоў з канфіскацыяй.

Зрэшты, выкладчык адмовіўся змірыцца з такой несправядлівасцю. Будучы ў зняволенні, ён стаў пісаць скаргі, у тым ліку на імя Калініна і пракурора СССР Вышынскага. Пратэстуючы супраць нечалавечых умоў, ён нават спрабаваў абвесціць у камеры галадоўку.

«Калі б хто-небудзь за гадзіну да майго арышту апісаў мне метады і формы вядзення следства, як гэта мела месца ў выпадку са мною, я б палічыў, што паклёпнічае, таму і я рызыкую быць абвінавачаным у паклёпе», — пісаў Глобус у сваёй скарзе з Уральскай турмы.

І — як у ваду глядзеў. Справу Глобуса праз паўгода даcталі з-пад сукна і перагледзелі. Новы прысуд гучаў так: расстрэл… за паклёп на органы НКВД.

У справе з'явіліся і іншыя «абцяжарваючыя» акалічнасці. Турэмны агент «Алдонаў» дакладваў з месцаў пазбаўлення волі, што ў зняволенні Глобус «рабіў некалькі спробаў перастуквацца з суседнімі камерамі», «уздымаў пытанне аб агульнай галадоўцы», а аднойчы, чытаючы артыкул у газеце «Праўда» аб арыштаваных з ліку партработнікаў, заявіў: «вырываюць карані і карэньчыкі».

Новае абвінавачанне Глобусу, заснаванае на гэтых даных, уже гучала так: «Адбываючы тэрмін пакарання ва Уральскай турме, з'явіўся кіраўніком зняволеных у барацьбе за паслабленне турэмнага рэжыму, актыўна распрацоўвае і ажыццяўляе спосабы сувязі са зняволенымі іншых камер з мэтай арганізацыі масавых выступаў супраць турэмнага рэжыму, арганізуе масавую галадоўку ў турме.

Сістэматычна паклёпнічае на органы следства і суда, распаўсюджваючы недарэчныя звесткі пра прымусы, пагрозы і іншыя спосабы дамагчыся абвінавачання ў контррэвалюцыйнай дзейнасці».

2 кастрычніка 1937 года «тройка» вынесла вердыкт. У 1937 годзе Мірон Ільіч Глобус быў расстраляны.

### «Арыштамі невінаватых хацелі выклікаць незадаволенасць сярод народа»

Зрэшты, наступіла расплата і для катаў. І не апошнюю ролю адыгралі тыя самыя скаргі, якія Глобус пісаў у вышэйшыя інстанцыі і якія па факце каштавалі яму жыцця.

У справе Глобуса, якая была перагледжаная ў 1956 годзе і спыненая «за адсутнасцю складу злачынства», маюцца і даныя пра лёс следчых, якія вялі яго, а таксама іх начальнікаў. Так, трое (Успенскі, Папоў, Пастаногаў) у 1939–1940-х гадах былі расстраляныя або асуджаныя на працяглыя тэрміны за фальсіфікацыю і неабгрунтаваныя арышты, яшчэ адзін (следчы Пасынкаў) вымушаны быў апраўдвацца праз 20 гадоў.

Аднак цікавей за ўсё, як менавіта паводзілі сябе на допытах самі былыя следчыя і іх начальнікі і з якой стараннасцю яны здавалі адзін аднаго.




Пратакол допыту

Напрыклад, начальнік УНКВД па Алтайскім краі Серафім Папоў заяўляў, што вымушаны быў выконваць контррэвалюцыйныя ўстаноўкі «свайго начальніка Аляксандра Успенскага». А Успенскі, са свайго боку, сведчыў, што Папоў «развярнуўся ва ўсю і ўцягнуў у ліпавыя справы раённыя апараты».

На допытах Папоў і Успенскі назвалі яшчэ з дзясятак прозвішчаў супрацоўнікаў, якія ўдзельнічалі ў масавай штампоўцы спраў па «трацкістах». І што б вы думалі? Усіх іх, у тым ліку Папова і Успенскага (як калісьці яны самі), абвясцілі змоўшчыкамі-трацкістамі: нібыта фальсіфікуючы справы на іншых, яны тым самым спрабавалі адвесці ад сябе падазрэнні і не выдаць правасуддзю сапраўдных «ворагаў». Ну а арышты невінаватых праводзіліся, «каб выклікаць незадаволенасць сярод народа».

Вось як гучала абвінавачанне: «Папоў, з'яўляючыся актыўным удзельнікам антысавецкай змоўніцкай арганізацыі ў органах НКУС, па заданні кіруючага цэнтра гэтай арганізацыі захоўваў ад выкрыцця антысавецкае, праватрацкісцкае падполле, праводзіў масавыя неабгрунтаваныя арышты і фальсіфікаваў следства па справах арыштаваных, ствараючы справы на неіснуючыя контррэвалюцыйныя арганізацыі».

**Якім бы абсурдным ні было абвінавачанне пра ўдзел у змове, маштаб фальсіфікацый уражвае. Паведамляецца, што «ў канцы 1937 года Папоў неабгрунтавана арыштаваў 4894 чалавекі, з ліку якіх 2064 чалавекі былі прысуджаныя да расстрэлу»**

У якасці доказаў да справы былі далучаныя паказанні і скаргі іх ахвяр (у тым ліку дацэнта Глобуса), ну і, вядома, шматлікія сведчанні былых калег.

Якім бы абсурдным ні было абвінавачанне пра ўдзел у змове (мы ж выдатна разумеем, дзеля чаго яны стараліся), але маштаб фальсіфікацый уражвае. Так, паведамляецца, што «ў канцы 1937 года Папоў неабгрунтавана арыштаваў па Алтайскім краі 4894 чалавекі, з ліку якіх 2064 чалавекі былі прысуджаныя да расстрэлу».

Метады, якімі Папоў і яго падначаленыя выбівалі паказанні, таксама апісаныя ў справе Глобуса. Былы пракурор Алтайскага краю Пазнякоў, арыштаваны Паповым за трацкізм, паказаў, што да яго «ўжываліся розныя метады здзекаў: абіўка наскамі і абцасамі ног, працяглая выстойка (22 сутак 17 гадзін), прымяненне апёкаў рук падпаленай свечкай, удары кулаком у жывот і г.д., калі ён пачынаў крычаць, то яму затыкалі рот хусткай».

Аналагічныя паказанні былі дадзены арыштаванымі па іншых справах.

І Папоў, і Успенскі былі прысуджаныя да расстрэлу. Прысуд у дачыненні да Папова прывялі ў выкананне на наступны ж дзень. А вось Успенскага яшчэ на месяц пакінулі ў жывых «для дачы дадатковых паказанняў».

### «Чацвёра выкінуліся ў вакно падчас следства»

Яшчэ адным удзельнікам «змоўнай антысавецкай групы» ў органах НКУС і адначасова следчым па справе дацэнта Глобуса быў старшы лейтэнант Канстанцін Пастаногаў.

«Іншых элементаў, акрамя "шпіён", "бандыт", "фашыст" і самых пахабных у спалучэнні з адборным матам у яго лексіконе няма», — паведамляў пра Пастаногава Глобус.

У сваіх скаргах выкладчык пісаў, што нават баіцца апісваць метады, якімі дзейнічаў следчы: «На маё ўказанне, што я вымушаны буду скардзіцца пракурору, ён адказаў вельмі проста: "Хай пракурор асмеліцца заступіцца за цябе, і ён будзе побач" (пазней пракурор сапраўды аказаўся «побач»).

Па справе Пастаногава, якая ўтрымлівала 6 тамоў, былі дапытаныя 43 сведкі, у тым ліку работнікі НКУС. Яны не сталі маўчаць пра метады вядзення следства.

«Асобы, якія ў судовым пасяджэнні першапачаткова адмаўляліся ад прызнальных паказанняў, падчас перапынку судовага пасяджэння выводзіліся ў кабінеты следчых, праходзілі там адпаведную "апрацоўку", пасля чаго ў судзе прызнаваліся ў тым, што яны спрабавалі абгаварыць органы НКУС», — гаворыцца ў даведцы па справе Пастаногава.

На рахунку следчага значыліся сфабрыкаваныя справы на групы студэнтаў, работнікаў кінатрэста, работнікаў пракуратуры вобласці і раёна, якія пасля арышту Пастаногава былі вызваленыя з-пад варты «за выключэннем аблпракурора Баркова, які, не вытрымаўшы здзекі з яго падчас следства, скончыў жыццё самагубствам (выкінуўся з акна чацвёртага паверха)».

Пра метады красамоўна сведчыць наступны факт, пазначаны ў справе: «устаноўлена, што ў выніку так званага "канвеернага" допыту і жудасных турэмных умоў памерлі ў турэмным шпіталі ў 1938 годзе 28 арыштаваных і чацвёра выкінуліся ў вакно падчас следства».

Зрэшты, сам Пастаногаў заявіў, што «выконваў у сваёй працы ўстаноўкі начальства». У 1940 годзе яго прысудзілі да васьмі гадоў пазбаўлення волі з пазбаўленнем звання «старшага лейтэнанта дзяржбяспекі».

Трэба сказаць, далейшы лёс гэтага чалавека, у адрозненне ад яго начальнікаў, склаўся цалкам паспяхова. У 1941-м пасля лістоў на адрас Берыі Пастаногаў быў вызвалены з турмы і накіраваны ў якасці аператыўнага работніка ў партызанскі атрад.

Пасля вайны ён зноў вярнуўся на працу ў органы НКУС-МУС. Аднак у 1954 годзе быў выключаны з партыі як той, хто не апраўдаў даверу, і звольнены з МУС. Адной з прычын сталі яго рэгулярныя заявы ў абкам на свайго непасрэднага начальніка.

Ёсць у справе выкладчыка Глобуса яшчэ адзін цікавы эпізод. Ён тычыцца іншага следчага — Якава Пасынкава. У 1938-1940-х гадах Пасынкаву ўдалося пазбегнуць арышту. Але тое, як ён даваў паказанні па «справе Глобуса» ў 1955 годзе, варта асобнай увагі. Пра гэта мы яшчэ напішам.

«**Салідарнасць**».
**Пераклад НЧ**

Сяргей КАЙКО

# Сезон на экватары, журналіст за кратамі

**У вышэйшай лізе згуляна акурат 15 тураў, і з гэтай нагоды чэмпіянат сыходзіць на двухтыднёвы перапынак. Набліжаюцца еўракубкі, і тут — мы пра гэта ўжо распавядалі — беларускім клубам прыйдзецца амаль спрэс практыкавацца на выездзе.**

Зборная маўкліва чакае вераснёўскага працягу адборачнага цыклу, аднак спакой і ёй толькі сніцца — міжнародная ізаляцыя таксама грукаецца ў плечы. А ў дадатак працягваюцца арышты спартыўных журналістаў, і дзе-нідзе адміністрацыйныя справы ператвараюцца ў крымінальныя.

Так бы мовіць, у беларускім футболе ідзе звычайнае жыццё пасярод «года народнага адзінства». На яго некаторых аспектах якраз і засяродзімся на гэтай ліпеньскай пераправе.

## Зборная: сірата казанская?

Ледзьве мы абмеркавалі і неяк звыкліся з тым, што хатнія еўракубкавыя матчы беларускія клубы будуць змушаныя праводзіць на чужыне, як перакрытая паветраная прастора накрыла і зборную. Ну а што: хіба магло быць інакш? Усе ў Казань — і ты ў Казань. Нельга выключаць, што хутка там спатрэбіцца татарскі філіял Беларускай федэрацыі футбола. Бо вядома ж: менавіта ў сталіцы сябро ўскага Татарстана атабарыцца дзеля гульняў Лігі канферэнцый і жодзінскае «Тарпеда». А там, можа, яшчэ хто пад'едзе, бо месца наўпрост на вачах робіцца намоленым. Ды і ў Казані кажуць, маўляў, будзем рады бачыць на нашай зямлі братніх беларускіх гасцей з іншаземных абласцей.

Пакуль справа тычыцца толькі дзвюх бліжэйшых сустрэч зборнай — 5 і 8 верасня. Але што гэта за сустрэчы! Найперш, з камандай Уэльса — той самай, у складзе якой гойсаюць па полі Гарэт Бэйл, Арон Рэмзі ды іншыя еўрапейскія зоркі. Але і тое будзе толькі разагрэвам, бо праз тры дні ў госці да беларусаў завітаюць зіхатлівыя бельгійцы — Рамэлу Лукаку, Кевін дэ Бройне, Эдэн Азар... Увогуле, там куды ні тыкні пальцам — патрапіш на сапраўдную футбольную славутасць. На чалавека, якога вось літаральна толькі што ты назіраў па тэлевізары падчас чэмпіянату Еўропы.

Тым славутасцям, канешне, беларусы летась ганебна прайгралі з гістарычна рэкордным лікам 0:8, але хіба гэта падстава, каб не паглядзець на чараўнікоў уласнымі вачыма? Вядома, не. Ва ўсе часы было так і толькі так: як прыязджае да нас каманда, насычаная селебрыці, бы велікодны пірог разынкамі, то айчынныя заўзятары адразу шыхтуюцца ў чаргу і размятаюць квіткі, гарантуючы аншлаг у Барысаве ці Мінску.

Гэтак было б і цяпер — але не будзе. Бо замест Барысава ці Мінска прымаць зорных візіцёраў давядзецца ў Казані. Як той казаў, попел знакамітага «Боінга» стукае ў нашых сэрцах. І аддаецца ў кішэнях БФФ, якая магла б добра зарабіць на продажы квіткоў і рэкламы, а цяпер, наадварот, рыхтуецца несці вялізныя выдаткі на арганізацыі дарагіх івентаў за мяжой. А гэта і арэнда стадыёна, і пражыванне зборнай цягам амаль што тыдня, і ТВ-прадакшн, які, меркавана, прыйдзецца замаўляць у мясцовых тэлевізійшчыкаў.

Для парадку, вядома, варта ўдакладніць: гэта яшчэ не стопрацэнтнае рашэнне — гуляць у Татарстане. Беларуская футбольная федэрацыя на гэты конт маўчыць, набраўшы ў рот вады. Аднак няма дыму без агню, і ў званы ўжо актыўна б'е расійская прэса — у прыватнасці, аўтарытэтнае татарстанскае выданне «БИЗНЕС. Online». Паводле калег, адміністрацыя казанскага стадыёна «Цэнтральны» (умяшчальнасць 25 тысяч) ужо выйшла на фінішную прамую ў перамовах з беларускім бокам, і згода вось-вось будзе дасягнутая. «Будзем старацца прыняць зборную Беларусі, братэрскай для нас краіны, у Казані. Гэта гонар для нас», — цытуюць расійскія рэпарцёры дырэктара арэны Ільгіза Фахрыева.

І ўжо каб закрыць тэму, дадамо, што матчы на «Цэнтральным» пройдуць пры пустых трыбунах. Такія правілы УЕФА на выпадак сустрэч на нейтральных палях. Гэта значыць, што і тамтэйшыя заўзятары не змогуць наведаць статусны футбол, хаця відавочна б хацелі — калі яшчэ пашчасціць пабачыць Цібо Куртуа альбо Аксэля Віцэля?



Фота www.pressball.by

Зборная Беларусі: сустрэнемся ў Казані?

## Чэмпіянат: трапныя прагнозы

Чэмпіянат пакуль заякарыўся — то варта выказаць колькі думак і з гэтай нагоды. Зрэшты, што тут асаблівa казаць? Толькі тое, што такога прадказальнага, аднастайнага і прамалінейнага сюжэту вышэйшая ліга даўно не ведала. Як мы напрарочылі яшчэ ўвесну — так яно ўсё і адбываецца.

«Шахцёр» абароніць чэмпіёнскі тытул — быў наш прагноз. І ён цалкам спраўджваецца. На гэты час салігорцы толькі аднойчы страцілі ачкі, калі згулялі ўнічыю з брэсцкім «Дынама». У астатнім — суцэльны хайвэй, хай-фай і хай-клас. Каманда больш за ўсіх забівае, менш за ўсіх прапускае, упэўнена перамагла прамых канкурэнтаў... Так, наперадзе еўракубкі — гэта стрэс. Наперадзе — імаверныя страты некалькіх лідараў, на якіх паклалі вока замежныя працадаўцы. Але тыя ж падводныя камяні ляжаць і на шляху іншых айчынных топаў, таму, хутчэй за ўсё, залатыя медалі зноў нікуды не дзенуцца.

БАТЭ фінішуе на другім месцы — было такое прароцтва. І яно таксама збываецца. Няпростыя часы перажывае барысаўскі клуб, але на тое, каб дыхаць у патыліцу «Шахцёру», пораху дастаткова. Настолькі, што назад можна не азірацца — нават нецікава, як там маюцца чыста намінальныя пераследнікі.

Казалі мы, што трэцім будзе мінскае «Дынама», і вось тут складаней. Не таму, што мінчан саміх калбасіць, хаця і з гэтай прычыны таксама. Папросту і брэсцкі «Рух» рухаецца па дыстанцыі няблага, і раптам выраслі медальныя хацелкі ў «Гомеля»... Ну добра: будзем назіраць — тут анонсы яшчэ лёгка могуць збыцца.

Ну і зусім лаканічна — калі ж спадарства хоча яшчэ прагнозаў, то трымайце адразу два. У другой частцы сезона прадбачым адчувальныя цяжкасці з фінансаваннем у цэлым шэрагу клубаў, і паступовы сыход ад нашых родных ніў гульцоў-легіянераў. Чаму — пытанне не да футболу, а да нацыянальнай эканомікі, і залішніх тлумачэнняў гэты тэзіс не патрабуе. Куды памалу дрэйфуе жыццё, туды ж цягнецца і ўсялякая іншая індустрыя.

## Журналістыка: першы палітвязень

Пра змрок, які сёлета агарнуў незалежную журналістыку, даўно вядома. Пазбаўленне акрэдытацыі, блакаванне сайтаў, вобшукі ў рэдакцыях, звальненні, затрыманні, адміністрацыйныя справы, крымінальныя справы... Сёння ў няволі пакутуюць некалькі дзясяткаў працаўнікоў медыя — і Беларусь спаўзае ўсё ніжэй у міжнародных рэйтынгах свабоды прэсы.

Спартыўная журналістыка да нядаўняга часу абыходзілася тут, як кажуць, малой крывёю. Максімум, што выпадаў на яе долю, гэта эпізадычныя адміністрацыйныя арышты. Так, «суткі» за плячыма маюць Сяргей Шчурко з «Прэсбола», Дзмітрый Руто з «Трыбуны», былыя тэлевізійшчыкі Уладзіслаў Татур і Яраслаў Пісарэнка... Можна было б з пэўным гумарам сказаць: не сядзеў — не беларус, але гумар неяк рэзка знік, калі стала вядома ўжо і пра крымінальны пераслед.

У гэтыя жорны патрапіў Аляксандр Івулін — youtube-блогер і прыкметны гонза-журналіст з той жа «Трыбуны». Спачатку ён зведаў тыповую адміністрацыйную «працэдуру» — затрыманне за нібыта БЧБ-сцяг на акне і 30 сутак арышту. Але на волю так і не выйшаў: наўздагон яму інкрымінавалі 342-ты артыкул КК, максімальнае пакаранне па якім — чатыры гады калоніі. У панядзелак хлопца прызналі палітвязнем.

Залішне казаць, што салідарнасць цяпер ляціць на адрас Аляксандра Івуліна трасіруючымі флюідамі. Яго падтрымліваюць калегі і актывісты Свабоднага аб'яднання спартоўцаў, яго прозвішча скандуюць заўзятары, у яго гонар ладзяць акцыі дыяспары. Усё гэта прадказальна — і так павінна быць, і так будзе надалей.

На жаль, прадказальнай сталася і рэакцыя футбольнай грамадскасці, дзеля якой самааддана працуе адзін з самых яркіх спартыўных журналістаў краіны. За рэдкімі выключэннямі, футбольная грамадскасць прамаўчала. Зрэшты, гэта — зусім іншая гісторыя. Занадта вядомая, каб яе пераказваць. І дастаткова красамоўная, каб вычарпальна разумець сутнасць сённяшняга беларускага футбола і існасць яго палахлівых філісцёраў.

## Чэмпіянат Беларусі

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Шахцёр | 14 | 13 | 1 | 0 | 32–7 | 40 |
| 2. | БАТЭ | 15 | 11 | 3 | 1 | 31–10 | 36 |
| 3. | Рух | 15 | 8 | 5 | 2 | 24–12 | 29 |
| 4. | Дынама Мн. | 15 | 9 | 2 | 4 | 27–10 | 29 |
| 5. | Гомель | 14 | 8 | 3 | 3 | 29–14 | 27 |
| 6. | Мінск | 15 | 5 | 6 | 4 | 22–25 | 21 |
| 7. | Дынама Бр. | 15 | 4 | 9 | 2 | 16–10 | 21 |
| 8. | Віцебск | 15 | 4 | 8 | 3 | 17–12 | 20 |
| 9. | Энергетык-БДУ | 15 | 5 | 4 | 6 | 19–19 | 19 |
| 10. | Тарпеда-БелАЗ | 15 | 5 | 4 | 6 | 15–22 | 19 |
| 11. | Іслач | 15 | 4 | 4 | 7 | 19–25 | 16 |
| 12. | Слуцк | 15 | 3 | 5 | 7 | 15–25 | 14 |
| 13. | Славія | 15 | 2 | 3 | 10 | 16–31 | 9 |
| 14. | Нёман | 15 | 1 | 6 | 8 | 12–23 | 9 |
| 15. | Смаргонь | 15 | 1 | 4 | 10 | 10–34 | 7 |
| 16. | Спадарожнік | 15 | 2 | 1 | 12 | 12–37 | 7 |

15 ТУР. 2.07. МІНСК — СМАРГОНЬ — 2:2 (120; Алісейка, 2, Муніру, 72 — Задзі, 43, Муніру, 46+, аўтагол).

3.07. СЛУЦК — СПАДАРОЖНІК (Рэчыца) — 3:2 (776; Альфрэд, 37, Клачкоў, 70, Вяргейчык, 92+ — Фядзянін, 18, Канцадайлаў, 60).

ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — ІСЛАЧ (Мінскі раён) — 1:1 (100; Мірошнікаў, 22 — Р. Лісаковіч, 76).

ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — НЁМАН (Гродна) — 1:1 (810; Кляньё, 23 — Забелін, 92+).

4.07. ВІЦЕБСК — БАТЭ (Барысаў) — 0:0 (4780).

ДЫНАМА (Мінск) — СЛАВІЯ (Мазыр) — 4:0 (1323; Пуціла, 11, Мбенг, 42, 62, 66).

ДЫНАМА (Брэст) — РУХ (Брэст) — 1:1 (6116; Беленькі, 79 — Грачыха, 32).

ГОМЕЛЬ — ШАХЦЁР (Салігорск) — матч перанесены на нявызначаны тэрмін.

16.07. Слуцк — БАТЭ, Дынама Бр. — Спадарожнік, Тарпеда-БелАЗ — Дынама Мн. 17.07. Смаргонь — Энергетык-БДУ, Гомель — Рух. 18.07. Славія — Іслач, Віцебск — Нёман. Матч Мінск — Шахцёр перанесены на нявызначаны тэрмін.

# ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. А яшчэ ў вас ёсць магчымасць даслаць віншаванне ў рэдакцыю, а мы яго надрукуем. Працягваем знаёміць з тымі, у каго дзень народзінаў у ліпені.**

## 12 ліпеня

34 гады споўніцца **Валерыю Іванавічу Вішчэню** — жыхару Мінска, затрыманаму 29 красавіка 2021 года па крымінальнай справе, распачатай па артыкуле 342 Крымінальнага кодэкса (Арганізацыя альбо актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак). Валерый выхоўвае траіх дзяцей, малодшае дзіця мае інваліднасць.



Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

55-годдзе сустрэне за кратамі **Таццяна Васільеўна Канеўская** — давераная асоба кандыдаткі ў прэзідэнты Святланы Ціханоўскай у Гомелі. Вядомая ў гомельскім рэгіёне актывістка. Сама яна прыйшла ў актывізм праз змаганне за свабоду свайго сына, якога асудзілі па наркатычным артыкуле. Яна некалькі гадоў змагалася за змены ў антынаркатычные заканадаўства ў якасці прадстаўніцы ініцыятывы «Матчын рух 328». Таццяна з'яўлялася ініцыятаркай галадоўкі маці асуджаных за наркотыкі. У парламенцкіх выбарах–2019 яна брала ўдзел у якасці кандыдаткі ў дэпутаты. Вечарам 6 жніўня 2020 года ў доме Таццяны Канеўскай правялі вобшук, а зранку сілавікі прыйшлі ў дом Канеўскай з паўторным вобшукам. Жанчыну затрымалі.



4 траўня суд Чыгуначнага раёна Гомеля агучыў прысуды па крымінальнай справе ў дачыненні да давераных асоб Святланы Ціханоўскай — Таццяны Канеўскай, Юрыя Уласава, Дзмітрыя Івашкова і Аляксандра Шабаліна. Іх абвінавацілі ў «масавых беспарадках» і планах па «захопе будынкаў». Суддзя Аляксей Хлышчанкоў асудзіў Юрыя Уласава на 6,5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму, Таццяну Канеўскую — на 6 гадоў калоніі агульнага рэжыму, а Дзмітрыя Івашкова і Аляксандра Шабаліна — на 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-3. 246003, г. Гомель, вул. Кніжная, 1А.

26 гадоў споўніцца **Яну Рымараву.** З матэрыялаў справы вынікае, што жыхар Жлобіна Ян Сяргеевіч Рымараў у мясцовым чаце «Жлобін для жыцця» ў перыяд з 10 па 22 жніўня 2020 года зняважыў прадстаўніка ўлады — намесніка начальніка УУС Жлобінскага райвыканкама Дзмітрыя Дзедзюна з выкарыстаннем нецэнзурнай лексікі. Яму было прад'яўлена абвінавачанне паводле арт. 369 Крымінальнага кодэкса (Абраза прадстаўніка ўлады).



Суд пастанавіў прызнаць Яна Рымарава вінаватым і прызначыў яму пакаранне ў выглядзе абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу тэрмінам на 2 гады.

Адрас для лістоў: Выпраўленчая ўстанова адкрытага тыпу №48. 213765, г. Асіповічы, вул. Сумчанкі, 38.

## 13 ліпеня

48-годдзе сустрэне за кратамі **Людміла Юр'еўна Чэкіна** — генеральная дырэктарка TUT.BY.

Працуе ў TUT.BY з 2008 года. Спачатку яна была юрысконсультам, а затым стала дырэктарам. У 2017 годзе Людміла ўзначаліла «ТУТ Бай медыя». Калегі кажуць, што яна вельмі цярплівы і добры чалавек, шануе людзей, заўсёды гатовая дапамагчы і шукае выйсце з любой сітуацыі. Акрамя таго Людміла любіць чытаць, кветкі і жывёл — у Людмілы два ката.



Людміла была затрыманая 18 траўня ў межах крымінальнай справы, распачатай супраць TUT.BY за ўхіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры (ч. 2 арт. 243 КК).

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## 14 ліпеня

30-годдзе сустрэне за кратамі **Аляксандр Андрэевіч Захарэвіч.** Мінчук быў затрыманы 1 лістапада падчас мірнай акцыі пратэсту і асуджаны на 9 сутак адміністрацыйнага арышту. Пасля іх адбыцця, быў паразатрыманы на выхадзе з СІЗА Баранавічаў. Дома ў Аляксандра Захарэвіча прайшоў ператрус.

Пазней ён быў абвінавачаны паводле арт. 364 КК за тое, што наступіў на нагу супрацоўніка ДАІ, калі ўцякаў ад супрацоўнікаў міліцыі. З 12 лістапада знаходзіцца пад вартай.



Сваёй віны Аляксандр Захарэвіч не прызнаў. Асуджаны судом Першамайскага раёна паводле арт. 364 на два гады пазбаўлення волі. Таксама суд пастанавіў спагнаць з Аляксандра Захарэвіча кампенсацыю маральнай шкоды на карысць пацярпелага амапаўца ў памеры 500 рублёў.

Адрас для лістоў: ПК №17. 213004, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8.

## 16 ліпеня

22 гады споўніцца **Уладзіславу Дзмітрыевічу Усціну** — мінчуку, асуджанаму на 3 гады абмежавання волі з накіраваннем («хімія») па артыкуле за гвалт у дачыненні да міліцыянта. Крымінальная справа на Уладзіслава была заведзена па падзеях 14 ліпеня ў Мінску, калі людзі выйшлі на стыхійную акцыю пратэсту.

Першы раз Усціна затрымалі 14 ліпеня каля плошчы Перамогі з боку музея «Дом РСДРП». У той вечар малады чалавек вяртаўся дадому пасля сумоўя па працаўладкаванні. Яго схапілі, кінулі ў аўтазак і там збівалі. Раніцай яго вызвалілі без пратакола, аднак 16 ліпеня затрымалі зноў на працы.



Адрас для лістоў: Выпраўленчая ўстанова адкрытага тыпу №7. 225136, Пружанскі раён, в. Куплін.

26 гадоў споўніцца **Мікалаю Ігаравічу Сасеву** — выкладчыку танцаў. Мікалай быў затрыманы ў ноч з 13 на 14 жніўня разам з палітвязнем Уладзіславам Карэцкім у межах справы аб масавых беспарадках. Пазней Мікалаю Сасеву было прад'яўлене абвінавачанне па ч. 1 арт. 13 і ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (падрыхтоўка да масавых беспарадкаў) і ч. 3 арт. 293 КК (іншая падрыхтоўка асоб да ўдзелу ў масавых беспарадках). Пакараны 10 чэрвеня 5 гадамі ўзмоцненага рэжыму.



Адрас для лістоў: Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.

55-годдзе сустрэне за кратамі **Сяргей Фёдаравіч Раткевіч.** Ён быў затрыманы 30 жніўня 2020 года ў Мінску падчас нядзельнай акцыі пратэсту, а менавіта пасля канфлікту, які завязаўся паміж супрацоўнікамі міліцыі і пратэстоўцамі, што спрабавалі адбіць іншага пратэстоўца (палітвязня Аляксея Чарвінскага) ад затрымання.

Сяргея абвінавацілі паводле арт. 364 Крымінальнага кодэкса (Гвалт ці пагроза гвалту ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі) — за бойку і ўдары па мікрааўтобусе міліцыі.

27 лістапада суддзя суда Ленінскага раёна Мінска Марына Запаснік пакарала Сяргея Раткевіча 5 гадамі пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: ПК №17. 213004, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8.

## 18 ліпеня

30-годдзе сустрэне за кратамі **Мікалай Сяргеевіч Малюта** — жыхар Брэста, гісторык па адукацыі, працуе будаўніком. Стаў фігурантам крымінальнай справы, распачатай па ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэксу (Удзел у масавых беспарадках) пасля акцый пратэсту ў горадзе ў жніўні мінулага года.

Мікалая затрымалі 29 сакавіка ў вёсцы ў бабулі, дзе ён быў з дзіцём. Праз тры дні перавялі ў СІЗА-7, дзе ён цяпер і знаходзіцца.



На наступны дзень пасля затрымання, 30 сакавіка, у Мікалая нарадзілася другое дзіця.

Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

31 год споўніцца **Аляксею Ігаравічу Санчуку.** Ён быў затрыманы 4 лістапада на рэпетыцыйнай кропцы ў Мінску з барабаншчыкамі. Тады затрымалі не менш за 10 музыкаў. Пры затрыманні Аляксея збілі. Пасля гэтага хлопца асудзілі на 15 сутак нібыта за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі, але пасля арышту ён на волю не выйшаў.

У судзе Маскоўскага раёна Мінска 13 траўня асудзілі 30-гадовага палітзняволенага барабаншчыка Аляксея Санчука. Яго абвінавацілі па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса: ч. 1 і 2 арт. 342, ч. 3 арт. 293 і арт. 13 ч. 2 арт. 293. Суддзя Таццяна Пірожнікава асудзіла палітвязня на шэсць гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму — менавіта такое пакаранне і прасіў пракурор Яўген Серакоў.

Адрас для лістоў: Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1150

Падпісана да друку 08.07.2021. 8.00. Наклад 6000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.